КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 18 (339) ◂ 9 мая ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час



**ГЕНЕРАЛ ВАЛЕРЫЙ ФРАЛОЎ**

Стар. 4

**ПРАКАПОВІЧ ПАКЛАЎ НАЦБАНК НА ЛАПАТКІ**

Дзеля дасягнення эфемернай мадэрнізацыі, мы працягваем наступаць на старыя граблі. Наглядчык за мадэрнізацыяй Пётр Пракаповіч у чарговы раз паклаў сваё былое ведамства — Нацыянальны банк — на абедзве лапаткі

Стар. 5

**БАЙКОТУ НЕ БУДЗЕ**

На надзвычайнай сесіі Нацыянальны алімпійскі камітэт (НАК) Грузіі прыняў рашэнне аб удзеле алімпійскай зборнай краіны ў зімовай алімпіядзе ў Сочы ў 2014 годзе. Рашэнне шмат каму з грузін не падабаецца

Стар. 13

**ЁН ЛЮБІЎ БЕЛАРУСАЎ І НАШЫ ПЕСНІ**

Стар. 14

ISSN 2218-2144
9 772218 214401 10018

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**БЕЛАСТОЦКІЯ ПЕРАСЯЛЕНЦЫ**

Нарыс Сяргея Чыгрына

ПАЛЕМІКА



Удовы ўскладаюць кветкі да магілаў загіблых мужоў. Хроніка 1980-х. З дакументальнага фільму «Святы адыходных часоў». Беларускі відэацэнтр, 1999

# РЫТУАЛЫ ВЕЧНАГА АГНЮ

Андрэй РАСІНСКІ

**У ноч з 8 на 9 мая нацысцкі рэжым капітуляваў. Злавесны акультны парадак — з печамі Асвенцыму, нялюдскімі эксперыментамі «Ананэрбэ» і масавым знявечаннем душаў — абрынуўся ў апраметную. Ягоныя важакі трuціліся цыяністым каліем, каб пазбегнуць шыбеніцы. Іншых чакаў Нюрнберг.**

Перамога, што выратавала Еўропу ад фашыстоўскай цемры, абрасла сваімі рытуаламі. Пакрысе ў гэтых рытуалах усё выразней давалася ў знакі нешта ілжывае і мутнацёмнае.

У Савецкім Саюзе 9 мая ад пачатку не было дзяржаўным святам. Сталін баяўся ветэранаў, яшчэ не старых, баяўся іх салідарнасці, баяўся, што пойдуць франтавікі ўздоўж трыбуны. Цікава, што ў хрушчоўскія часы былі майскія вайсковыя парады. Але звязаныя яны былі — як і ў ранейшым календары — з 1 мая, Днём міжнароднай салідарнасці працоўных. Камуністычныя святкаванні мелі свой гадавы графік: увосень — рытуалы Кастрычніцкай рэвалюцыі, вясной — узгадка, што гэта рэвалюцыя мусіць распаўсюдзіцца на ўвесь свет.

Пасля Карыбскага крызісу і прыходу да ўлады Брэжнева, Першамай сцішыў свой наступальны імпэт. Камуністычнай партыі для сваёй сімвалічнай легітымацыі — у сусветным маштабе — патрабавалася нешта мацнейшае. Гэтым мацнейшым стаўся ўспамін пра перамогу ў вайне. З 1965 года ўспамін неўпрыкмет адбіраўся ў паспалітага люду і выстаўляўся на плошчу, з мілітарным парадам, пашыхтаванымі калонамі і зброяй на колах. Ідэолагі бравурна тлумачылі, як трэба правільна святкаваць: чырвоныя сцягі ў цэнтры, пяціканцовыя зоркі — паўсюль, камуністычная партыя — у сэрцы і галаве.

Генеральны сакратар, які старэў і дзяцінеў, любіў цацкі-ўзнагароды: ордэны і медалі сыпаліся на яго — перападала і іншым. У тэлевізары гучалі «пераможныя» песні (асабліва любілі спяваць пра маладомую Малую Зямлю, які брывасты генсек у вайне абараняў).

Многія ветэраны не любілі фальшывы тлум. Мой дзед, які прайшоў вайну ад пачатку і да канца, ездзіў на сціплыя могілкі, дзе былі пахаваныя ягоныя аднапалчане. І не было на гэтых могілках вялізных помнікаў з напышлівымі словамі.

Звычайна на аграмадных помніках (а такіх шмат) няма імёнаў і няма памяці пра загіблых; ёсць чыгунныя раты, сцягі і ананімны пафас, дзе няма месца канкрэтнаму чалавеку, які жыў, змагаўся — і цяпер ужо ў іншым свеце. Невядома, за каго памаліцца ля такой спаруды.

Вырываецца з-пад зямлі вечны агонь. Кладуцца ахайныя, выпушчаныя масавым накладам, вяночкі ад бюракратычных арганізацый. Чым болей пафасу, тым меней людскасці; болей за тое, уладарнае выкраданне калектыўнай памяці толькі і магчымае, калі асобы забытыя, а застаюцца безаблічныя манументы.

Колькі гадоў таму ля Дому ветэранаў мяне раптам спыніў стары. Я не адразу сцяміў, што гэты паранены франтавік просіць у мяне грошай ад беднасці, але не ведае, як і сказаць. Ад сораму я гатовы быў праваліцца пад зямлю, выграб, што было ў мяне ў кішэнях... А стары заплакаў і пачаў дзякаваць Лукашэнку.

На Плошчы Перамогі тым часам гарэў вечны агонь. Школьніцы ў бантах і ваеннай форме ахоўвалі яго, а недалёка ўсё плакаў стары.

Я не буду цяпер гаварыць пра шал з георгіеўскімі стужкамі, што пачаўся з Расіі ды перакінуўся да нас. Не буду ўзгадваць мілітарную істэрыю «спасибо деду за победу» і сталінісцкія фільмы, панавыпусканыя ў Беларусі, не буду каментаваць сецевыя скандалы з фальшывымі ветэранамі.

Скажу толькі, што вечны агонь і ляскат зброі — складнікі таталітарнай ідэалогіі, своеасаблівай таталітарнай рэлігіі Перамогі. Гэта зусім не той вечны агонь, пра які спяваў Высоцкі, — «горящее сердце солдата»

Ахвяры гэтай рэлігіі таталітарызму — мёртвыя, чые імёны сцёртыя манументамі, і жывыя, якіх прыводзяць з вяночкамі. Так, ёсць мяжа паміж ухвальным шанаваннем памерлых і парушэннем першай Божай запаведзі, што забараняе стодапаклонства. Але ў выпадку з рэлігіяй Перамогі гэта хісткая мяжа парушаная.

Калі штогод адэпты мусяць пеставаць у сэрцах «ярасць благородную» і ненавідзець Захад на фоне ракетных установак і вусатых партрэтаў — дык каму яны пакланяюцца?

Калі замест міру і супакою ў сэрцы — мілітарнае ўзбуджэнне і пыха, уласцівыя таксама і Трэцяму Рэйху, дык хто пераможа?

Калі на касцях безыменных забітых пабудаваных стадыёны і дзе-нідзе насыпаныя сметнікі, а жывыя не бачаць ціхай мілітарызацыі ўлады, дык куды вядзе падземнае полымя?

Пакланенне вечнаму агню — гэта абраза Бога, зневага памерлых і калечанне жывых.

Паганскія агні мусяць быць патушаныя ва ўсёй краіне, на плошчах і ў гарадах. Месца ўрачыстазвяглівых рытуалаў мусяць заняць ціша і малітва — за ўсіх ахвяраў вайны і за нашых родных.

ЗНІКЛЫЯ

# АД СПРАВЫ ЗАХАРАНКІ ЎЛАДАМ НЕ ПАЗБАВІЦЦА

Сяргей ПУЛЬША

**Ужо 14 гадоў з намі няма генерала міліцыі, былога міністра ўнутраных спраў Беларусі Юрыя Захаранкі. Ён бясследна знік увечары 7 мая 1999 года.**

Па факце знікнення экс-міністра ўнутраных спраў крымінальная справа была распачатая толькі 17 верасня 1999 года па прыкметах злачынства, прадугледжанага артыкулам 101 Крымінальнага кодэкса. Сведкі выкрадання, якія былі знойдзеныя не следчымі органамі, а грамадскай камісіяй, сцвярджаюць, што Захаранка быў гвалтоўна вывезены некалькімі мужчынамі.

Беларускія ўлады 14 гадоў не могуць знайсці Захаранку, заяўляючы, што следства яшчэ не завершанае і прычыны выкрадання Захаранкі, як і яго лёс, не вядомыя. Між тым, Захаранка застаецца «ворагам рэжыму» нават праз столькі часу пасля знікнення. Як паведаміў лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, актывістамі партыі была пададзена 71 заяўка па ўсёй краіне на пікеты ў дзень знікнення Захаранкі. Ні адна заяўка не была задаволеная.

Таму АГП вырашыла правесці своеасаблівы «дзень інфармавання міліцыі». «У РУУС па ўсёй краіне мы накіроўваем партрэты Юрыя Захаранкі і кароткія ўлёткі з інфармацыяй пра яго і яго знікненне. Ужо прыйшлі новыя людзі ў міліцыю, якія не ведаюць, кім ён быў. І нам важна, каб міліцыянты ведалі не толькі цяперашняга міністра ўнутраных спраў, але і яго папярэдніка, і памяталі, што ён зрабіў для міліцыі», — кажа Лябедзька.

Між тым, да канца падыходзіць тэрмін даўніны крымінальных спраў па зніклых. Што да Захаранкі, то справа пра яго знікненне можа быць закрытая 17 верасня 2014 года.

Напрыканцы мінулага года зацікаўленыя палітычныя партыі і праваабаронцы стварылі своеасаблівы камітэт з мэтай недапушчэння закрыцця гэтых спраў і падаўжэння тэрмінаў расследавання. Па словах юрыста Гары Паганяйлы, гэтыя справы павінны быць перакваліфікаваныя па артыкул 128 Крымінальнага кодэкса — злачынствы супраць чалавецтва.

«Выкраданне людзей, пасля чаго нічога пра лёс гэтых людзей не вядома, утварае міжнародны склад злачынства, па якім тэрміны даўніны не дзейнічаюць. І тыя, хто спрабуе адседзецца, адлічваючы ўсталяваны законам 15-гадовы тэрмін даўніны, глыбока памыляюцца ў сваіх спадзяваннях. Не ў Беларусі, дык за яе межамі ў любым выпадку справа гэта не будзе спынена да таго часу, пакуль не будзе ўстаноўлена, хто быў вінаваты ў гэтых так званых пасазудовых пакараннях смерцю», — кажа Паганяйла.

Згодны з гэтым і былы следчы пракуратуры Алег Волчак: «Справа Захаранкі была перададзена ў рабочую камісію па гвалтоўных знікненнях ААН. Гэтая камісія штогод патрабуе ад нашых уладаў адказ: што зроблена ў расследаванні знікнення Захаранкі, як прасоўваецца следства, і гэтак далей. Праўда, пакуль беларускія ўлады адказваюць камісіі гэтак жа, як і нам: следства вядзецца, і пакуль ніякіх вынікаў».

Між тым, як заявіў Волчак, праца групы па гвалтоўных знікненнях ААН не мае нейкіх рамак па часе. І калі ўжо справа трапіла ў сферу ўвагі рабочай камісіі па гвалтоўных знікненнях ААН, то выйдзе яна адтуль толькі пасля таго, як стане зразумела, што адбылося са зніклымі.

Спадзявацца на тое, што справы Захаранкі, Красоўскага, Завадскага і Ганчара кудысьці знікнуць і забудуцца, у гэтай сітуацыі не даводзіцца. Яны ўсё роўна будуць расследаваныя. Пытанне толькі, калі...



ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ЖУРНАЛІСТЫ ЗНОЎ ЗА КРАТАМІ

Аксана КОЛБ

**7 мая ў Маскоўскім судзе Мінска былі вынесеныя прыгаворы журналістам Аляксандру Ярашэвічу і Зміцеру Галко. Абодва прызнаныя вінаватымі ў непадпарадкаванні міліцыі і дробным хуліганстве.**

Суддзя Яўген Хаткевіч пакараў Галко 10 суткамі адміністратыўнага арышту, а суддзя Таццяна Матыль адправіла Аляксандра Ярашэвіча на 12 сутак за краты.

Журналістаў затрымалі вечарам 6 мая. Яны вярталіся з вуліцы Акрэсціна, дзе сустракалі ўдзельнікаў акцыі «Чарнобыльскі шлях», якія выйшлі пасля 10-сутакавага адміністрацыйнага арышту. Прыкладна ў 20.40 каля станцыі метро «Міхалова» побач з імі спыніўся мікрааўтобус з групай спецназаўцаў, якія схапілі журналістаў у аўтамабіль і адвезлі ў Маскоўскае РУУС Мінску.

Як заўсёды, сведкамі на судзе выступілі міліцыянты. Як паведамляе «Радыё Свабода», амапавец Віктар Жарскі сказаў, што Галко і Ярашэвіч ішлі па вуліцы Прылуцкай і гучна лаяліся матам. Ён разам з іншым супрацоўнікам міліцыі да іх падышоў і зрабіў заўвагу. Аднак журналісты працягвалі лаяцца. Тады міліцыянты выклікалі машыну, журналісты супраціўляліся, а Ярашэвіч нібыта спрабаваў уцячы. Потым выступіў амапавец Аляксей Гарошка. Іх паказанні супярэчылі адно аднаму і падпісаным імі ж рапартам. У прыватнасці, міліцыянты далі розную інфармацыю адносна месца затрымання і дзеянняў Галко, які нібыта хапаў іх за рукі. Міліцыянт Маскоўскага РУУС Дзмітрый Новік у судзе прызнаў, што змяняў падпісаныя рапарты сваіх калег.

Паводле інфармацыі БАЖ, у судзе высветлілася, што пратаколы на Ярашэвіча складаліся двойчы (за адно і тое ж парушэнне): першы — учора ўвечары пасля затрымання, а другі — непасрэдна перад пачаткам слуханняў. У другім былі змененыя некаторыя фармулёўкі. Адвакат журналістаў Аляксандр Галіеў мяркуе, што гэта было зроблена пасля працэсу над Галко, падчас якога ўсплылі некаторыя разыходжанні ў паказаннях сведкаў.

Такім чынам, зноў журналістаў адправілі за краты толькі за тое, што яны журналісты і могуць расказаць людзям праўду. Нягледзячы на тое, што гэта парушае нават беларускае заканадаўства. Зноў сведкі-міліцыянты хлусяць па загаду начальства, нават не думаючы пра тое, што тым самым становяцца крымінальнымі злачынцамі.

«Узнікае адчуванне, што міліцыя дэманстратыўна ігнаруе ўсе спробы наладзіць абмеркаванне ўзніклай праблемы, — лічыць старшыня БАЖ Жанна Літвіна. — Нам што, трэба вадзіць за сабой адвакатаў і сведкаў, якія б абвяргалі ў судовых залах паказанні «людзей у цывільным»? Інакш як хамскім абыходжаннем з журналістамі гэта цяжка назваць. Такое ўражанне, што ідзе наўмыснае нагнятанне канфрантацыі міліцыі з журналісцкай супольнасцю. А гэта не той шлях, які вядзе да паразумення».

СПРАВА

# ГАЙДУКОВАЙ АДМОВІЛІ Ў СПАТКАННІ

**Вольга Гайдукова атрымала афіцыйную адмову ад следчага Віцебскай управы КДБ Алега Барысевіча. Ён вядзе справу Андрэя Гайдукова, якога вінавацяць у «здрадзе дзяржаве».**

Маці Гайдукова, якога ўжо паўгода трымаюць у турме КДБ, звярталася з просьбай пра спатканне ўжо двойчы. Першы раз ёй адмовілі яшчэ ўвосень, неўзабаве па затрыманні сына. Тады следчы Алег Барысевіч адмовіў, спаслаўшыся на «немэтазгоднасць» гэтага спаткання. Але, паводле Вольгі Гайдуковай, ёй сказалі, што спатканне, верагодна, дазволяць па сканчэнні следства ці перад судом.

«Зноў прыйшоў адказ: «Адмовіць». І, што асабліва крыўдна, без усялякіх тлумачэнняў. Са мной следчыя не размаўляюць, і ўсё, што я ведаю, — гэта з лістоў Андрэя. Яны кароценькія, на паўстаронкі. Але мне ўжо спакайней... Апошні ліст дык зусім кароткі: мауляў, падпісаў паперы, што пазнаёміўся з матэрыяламі справы, і што абвінавачанне застаецца ранейшае. А якое ранейшае? Нічога не ведаю. Адвакаты распавядаюць пра побытавыя рэчы: што перадаць у турму, ці здаровы Андрэй. І нічога канкрэтнага, бо ўсіх павязалі падпіскай пра неразгалошванне», — кажа Вольга Гайдукова.

Справу Андрэя Гайдукова і заўвагі па ёй мусіць вывучыць пракуратура. І там вырашаць, ці дастаткова матэрыялаў, каб перадаць яе ў суд. Суд, верагодна, адбудзецца напрыканцы траўня.

Паводле www.svaboda.org

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД



У Стакгольме прайшоў пікет у падтрымку бел-чырвона-белых сцягоў. У акцыі каля спартыўнага комплексу «Global Arena» ўдзельнічала больш за 30 чалавек — як беларусаў, так і шведаў

# ІДЫЯТЫЗМ — СПРАВА ПАЎСЮДНАЯ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Здаецца, вельмі кароткім быў гэты працоўны тыдзень, але якім вясёлым! І не беларусы адны здолелі пасмяшыць сусвет. Але ўсе гэтыя смяшкі маюць беларускае адценне.**

Нас насмяшыла, канешне ж, Міжнародная федэрацыя па хакеі з шайбай. Яна не вельмі хоча, нягледзячы на шматлікія прапановы, пераносіць Чэмпіянат свету па хакеі 2014 года з Беларусі ў якую-небудзь іншую краіну. І зразумела, чаму: бо Беларусь сумленна выйграла права правядзення гэтага чэмпіянату, бо ўжо абвешчана месца ягонага правядзення, большасць заўзятараў ужо знайшлі на мапах нашу краіну і рыхтуюцца да набыцця квіткоў і атрымання візаў. Але так скандальна прарэкламаваць Беларусь у свеце апошнім часам не мог нават Аляксандр Лукашэнка.

Справа ў тым, што МФХ забараніла заўзятарам праносіць на хакейныя матчы ЧМ–2013, што праходзіць зараз у Швецыі, бел-чырвона-белыя сцягі. 4 мая на матчы Беларусь — Чэхія беларускія заўзятары разгарнулі гіганцкі бел-чырвона-белы сцяг. Арганізатары чэмпіянату свету ў Швецыі выклікалі на трыбуны, дзе сядзелі беларускія заўзятары, паліцыю. Калі паліцыя паспрабавала згарнуць бел-чырвона-белыя сцягі, на абарону беларусаў усталі шведскія заўзятары. У выніку забароненыя ўладамі сімвалы засталіся на трыбунах да канца матчу. 5 мая на матчы Беларусь — Славенія за спробу разгарнуць вялізны бел-чырвона-белы сцяг двум хлопцам-беларусам паліцэйскія выкруцілі рукі і вывелі іх з арэны.

МФХ патлумачыла гэта тым, што бел-чырвона-белы сцяг з'яўляецца «палітычным сімвалам», а хакей — па-за палітыкай. Дарэчы, менавіта тое, што «хакей — па-за палітыкай» было дадатковым аргументам, каб захаваць ЧМ–2014 у Беларусі.

Сваім рашэннем МФХ яскрава паказала, што хакей якраз «у палітыцы», а рашэнне аб забароне нацыянальнай беларускай сімволікі ляжыць выключна ў палітычнай плыні. Бо не падпала пад забарону ані савецкая сімволіка, ані нейкая іншая.

Але што для Беларусі стала звычайным, тое для шведа — шок. І шакаваныя шведы не марудзілі з адказам. Буйнейшыя спартыўныя газеты Швецыі прысвяцілі гэтаму рашэнню першыя старонкі, а шведскія праваабаронцы наўпрост абвінавацілі МФХ у «сяброўстве з дыктатурай». Не засталіся ў баку і шведскія заўзятары, якія на знак салідарнасці з беларусамі наладзілі пікетаванне спартыўных аб'ектаў з бел-чырвона-белымі сцягамі.

Падчас пікету ў аўторак ад шведскіх журналістаў стала вядома, што МФХ дазволіла праносіць бел-чырвона-белыя сцягі на матч, але размахваць імі нельга.

Я раней думаў, што такі ідыятызм быў магчымы толькі ў савецкім войску. Па вядомай показцы: «Таварыш сяржант, можна паглядзець тэлевізар? — Глядзіце, але толькі не ўключайце». Але, аказваецца, ідыятызм — з'ява сусветная. Сцягі для таго і створаныя, каб імі размахваць, ці не так? Дык навошта такое ідыёцкае рашэнне?

Адзінае, чаго дамаглася МФХ — гэта таго, што заўзятары хакею больш пільна ўглядаюцца ў Беларусь і даведаліся, што тут няма дэмакратыі і свабодаў. На месцы Аляксандра Лукашэнкі за такую антырэкламу Беларусі я б сам адмовіўся ад правядзення ЧМ–2014.

Але кіраўніку краіны зараз не да таго. Напярэдадні свята Перамогі і, пэўна, чакаючы Дня Рэспублікі 3 ліпеня, Лукашэнка вырашыў паставіць буйную кропку ў размовах пра беларускую дзяржаўнасць і беларускую незалежнасць. Вялікую кропку. Жалезабетонную кропку. Жалезабетонную ў наўпроставым сэнсе гэтага слова.

Адкрываючы будаўніцтва жылога комплексу для навуковай і творчай інтэлігенцыі «Магістр», кіраўнік дзяржавы патлумачыў, што за аб'ект будуецца непадалёк ад рэзідэнцыі «Дразды» на праспекце Пераможцаў у Мінску. Аказваецца, будуецца Палац незалежнасці ў комплексе з плошчай Дзяржаўнага сцяга.

«Гэты комплекс быў задуманы як апошняя буйная кропка ў спрэчках пра нашу незалежнасць. Гэта, калі хочаце, дэманстрацыя таго, што Беларусь — гэта краіна, у гэтай краіне ёсць усё: ад зямлі, герба, сцяга і гэтага Палаца незалежнасці», — заявіў Лукашэнка, размаўляючы ў аўторак з удзельнікамі цырымоніі пачатку будаўніцтва комплексу «Магістр».

Лукашэнка растлумачыў, што ў Палацы незалежнасці будуць праходзіць асноўныя дзяржаўныя мерапрыемствы, пачынаючы ад уручэння замежнымі пасламі даверчых грамат і заканчваючы нарадамі кіраўнікоў дзяржаў, якія прыязджаюць да нас. «Яны павінны прыязджаць і бачыць, што Беларусь — гэта дзяржава, і нікому яе паварнуць і нахіліць больш не ўдасца. Гэта значыць, гэта галоўны цэнтр нашай краіны, цэнтр незалежнасці нашай дзяржавы», — дадаў Лукашэнка.

Таму, заявіў ён, «тое, што нібыта пішуць пра рэзідэнцыю і іншае — стаўцеся да гэтага спакойна». «Гэта апошняя кропка, і больш мы пра незалежнасць казаць не будзем, таму што гэта будзе натуральным у нашым жыцці», — падкрэсліў ён.

Ніколі не думаў, што кропка ў размовах пра незалежнасць будзе з жалезабетону. Але хай бы так, каб нам больш не казаць пра розныя саюзы з Расіяй, адзіную дзяржаву і адзіную канстытуцыю. Трэба б прадугледзець у гэтым комплексе і «папраўчы пакойчык» для тых, хто дагэтуль называе беларускую незалежнасць недарэчнасцю. Пажадана, дзе-небудзь у падвале і з абавязковым кругласутачным відэакурсам па асновах беларускай ідэалогіі і дзяржаўнасці.

Шкада ў гэтай сітуацыі толькі дзве ўстановы: Палац Рэспублікі і Нацыянальную бібліятэку. Палац незалежнасці забярэ ў іх шмат выгадных заказаў на правядзенне дзяржаўных мерапрыемстваў.

А яшчэ ў рамках эканоміі бюджэтных сродкаў у Беларусі стане менш на дзве дзяржаўныя газеты. Урад распарадзіўся да 1 ліпеня гэтага года далучыць «Рэспубліку» і «Беларускую Ніву» да галоўнага дзяржаўнага рупара «СБ — Беларусь Сегодня». Дарэчы, з гэтай пастановы мы даведаліся, што «Беларусь» ніякая не «Сегодня», а ўстанова Адміністрацыі прэзідэнта «Рэдакцыя газеты «Советская Белоруссия».

Цікава, як будзе называцца газета пасля зліцця? «Белорусская Белоруссия», «Советская Рэспубліка» альбо «Сёння Ніва»?

Карацей, стварылі нам вясёлы настрой на святы.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### АНДРЭЙ КУЛЕБІН



Беларускі баец муай-тай Андрэй Кулебін стаў чэмпіёнам свету. Ён перамог на турніры Max Muay Thai 2013, які прайшоў у Тайландзе. Андрэй Кулебін перамог байца з Уганды Умара Семату. А затым у фінальным паядынку беларус адправіў Петашвіна Шэатранферы з Тайланду ў накаўт у другім раўндзе.

Кулебін — неаднаразовы чэмпіён свету і пераможца розных турніраў сярод аматараў і прафесіяналаў. Спартыўную кар'еру сумяшчае з трэнерскай дзейнасцю ў клубе «Кік Файтэр», трэніруе ў пары з іншым вядомым байцом Андрэем Коцурам. Сярод іх выхаванцаў ёсць неаднаразовая чэмпіёнка свету Кацярына Вандар'ева. Кулебін скончыў Беларускае рэспубліканскае вучылішча алімпійскага рэзерву, з'яўляецца студэнтам-завочнікам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта фізічнай культуры.

Варта адзначыць, што Кулебін — не толькі тайбаксёр. Андрэй любіць плаванне, настольны тэніс, ровар ды і іншыя віды спорту. Напрыклад, кожныя выхадныя Кулебін гуляе ў міні-футбол у чэмпіянаце Мінска сярод аматараў за «Металург».

### ЭВАЛДАС ІГНАТАВІЧУС



Надзвычайны і паўнамоцны пасол Літвы ў Беларусі Эвалдас Ігнатавічус, адказваючы на пытанні журналістаў у час мерапрыемстваў Дзён Літвы ў Мінску, заявіў, што візы для беларусаў рана ці позна будуць адменены.

«Мы не маем намер будаваць новыя сцены і хочам, каб мяжа з Літвой стала неадчувальнай», — падкрэсліў літоўскі дыпламат.

Ён адзначыў важнасць таго, што Мінск — самая бліжэйшая да Вільнюса сталіца іншай дзяржавы. «Таму ёсць унікальная для мяне як дыпламата магчымасць бліжэй пазнаёміца з краінай-суседкай, з якой нас звязваюць даўнія гістарычныя карані», — сказаў Ігнатавічус.

Дні Літвы ў Беларусі адкрыліся 3 траўня, і гэта мерапрыемства арганізавана ўпершыню за ўвесь перыяд літоўска-беларускіх дыпламатычных адносін.

Меркаванне дыпламата, вядома, цікавае. Узнікае пытанне, калі будуць адменены візы. Асабліва ў той сітуацыі, калі нават спрашчэнню памежнага руху ўпарта супраціўляецца афіцыйны Мінск.

### МІХАІЛ МЯСНІКОВІЧ



Прэм'еру Беларусі трэба тэрмінова даць званне «Героя працы». Ён сустрэў свой 63-ці дзень нараджэння на працоўным месцы.

Раніцай 6 мая Мясніковіч сустрэўся са спікерам Савета народных прадстаўнікоў Народнай кансультацыйнай асамблеі Інданезіі Марзукі Алі, прыняў віншаванні ад калег і прадоўжыў працаваць па намечаным графіку.

Міхаіл Мясніковіч нарадзіўся 6 мая 1950 года ў вёсцы Новы Сноў Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці. У 1972 годзе скончыў Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут, у 1989 годзе — Мінскую вышэйшую партыйную школу. Доктар эканамічных навук (1998).

Працаваў у вытворчым аб'яднанні «Мінскводаканал» інжынерам, паступова дарос да пасады начальніка ўпраўлення прадпрыемстваў камунальнага абслугоўвання Мінскага гарвыканкама. З 1986 года — міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі БССР.

У 1994–1995 гадах быў намеснікам прэм'ер-міністра Беларусі, у 1995 годзе прызначаны кіраўніком адміністрацыі прэзідэнта. З кастрычніка 2001 года стаў прэзідэнтам, а з кастрычніка 2004-га — старшынёй прэзідыума НАН Беларусі. 28 снежня 2010 года прызначаны прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь.

ПАРТРЭТ

# ГЕНЕРАЛ ВАЛЕРЫЙ ФРАЛОЎ

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Калі дзесяць гадоў таму дэпутат Палаты прадстаўнікоў, адстаўны генерал Валерый Фралоў назваў сябе «маладым палітыкам», гэта ўспрынялі з гумарам. Рэальна яго палітычны дэбют адбыўся ў 1991 годзе, калі камандзір 107-й мотастралковай дывізіі і адначасова начальнік Вільнюскага гарнізона генерал Фралоў устрымаўся ад супрацоўніцтва з маскоўскімі эмісарамі ад ГКЧП.**



Гэта было менавіта палітычнае рашэнне, важкае тым больш, што ў Літве генерал Фралоў замяніў генерала Усхопчыка. Выдачы апошняга літоўскія ўлады патрабуюць да сёння, генерала ж Фралова запрашаюць на рознага кшталту сустрэчы, на тэлебачанне. Палітычныя палігоны беларускага апазіцыйнага палітыка, намесніка старшыні БСДП (Грамада) Валерыя Фралова, аказаліся не менш складанымі, чым палігоны танкавыя...

## Першыя зоркі

Яго бацька Дзмітры Міхайлавіч застаўся ў Мінску пасля вайны, а маці Надзея Міхайлаўна — родам з-пад Пухавічаў. 14 жніўня 1947 года ў іх нарадзіўся хлопчык, якога назвалі Валерыем.

Пасля сёмага класа Валерый паступіў у аўтамеханічны тэхнікум. Па заканчэнні працаваў зубарэзчыкам на МАЗе, і, як многія юнакі, марыў стаць разведчыкам. У ваенкамаце высветлілася, што вучылішча падобнага профілю ёсць толькі ў Алма-Аце, і рыхтуе яно будучых ахоўнікаў лагераў.

Рамантычныя мроі імгненна развеяліся. І ён скіраваў свой выбар на Харкаўскае танкавае вучылішча, якое і скончыў у 1970 годзе. Ён, як выдатнік, мог абіраць любое месца службы, але спыніўся на Беларусі. Гэта была ўсім вядомая Бароўка, што пад Лепелем. Быў камандзірам узвода, роты.

Праз паўтара гады ажаніўся. Шлюб аказаўся трывалым. На жаль, у 2003 годзе хвароба звяла Наталлю Фралову з гэтага свету.

З другой жонкай Валерый Фралоў пазнаёміўся дзякуючы палітыцы. Дакладней, публікацыі пра сябе ў «Народнай Волі». Патэлефанаваў аўтарцы — Наталлі Купрэевай, каб падзякаваць… Слова за слова, сустрэча, іскра сімпатыі, шлюб…

## Зоркі на пагонах

Ваенная кар'ера Валерыя Фралова, хаця і не дужа імклівая, як у некаторых генеральскіх сынкоў, была даволі паспяховай. Праз уласны розум, волю і працаздольнасць. У 1974 годзе Фралоў паступіў у Акадэмію бранятанкавых войскаў.

Па заканчэнні — служба на Далёкім Усходзе. 12 гадоў, з якіх шэсць камандаваў палком. Стандартны тэрмін на гэту прыступку кар'еры быў разы ў два карацейшы. Але тут — асобы выпадак. У савецкія часы адносіны паміж камандзірамі і палітработнікамі часта бывалі не самымі лепшымі. У Валерыя ж Фралова з начальнікам палітаддзела дывізіі яны былі настолькі напружанымі, што аднойчы сарваліся ў звычайную бойку.

Гэта магло стаць фактычным канцом кар'еры. Выратавалі вучэнні. Намесніку камандуючага акругай настолькі спадабаліся дзеянні палка Фралова, што аценіў іх вышэйшай адзнакай, дадаўшы: «Нічога падобнага з часоў вайны не бачыў». Вынік — павышэнне.

Дарэчы, іх дывізіяй тады камандаваў палкоўнік Леанід Мальцаў, які потым стаў міністрам абароны, а зараз узначальвае Савет бяспекі краіны. Ён і даў Валерыю Фралову ў 1989 годзе накіраванне ў Ваенную акадэмію Генеральнага штаба.

Потым быў Вільнюс. Сярод падначаленых Фралова знаходзіўся ў тым ліку начальнік штаба і ракетных войскаў Вільнюскага гарнізона, будучы прэзідэнт непрызнанай Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя Аслан Масхадаў. Сустракацца ж і разрулiваць складаныя пытанні Валерыю Фралову прыходзілася як з камуністамі Ермалавічусам і Буракавічусам, так і сацыял-дэмакратам Бразаўскасам, з лідарам «Саюдзіса» Ландсбергісам, з многімі іншымі палітыкамі Літвы.

## Ад пагон да палітыкі

Пры ўсім негатыўным стаўленні стваральнікаў незалежнай Літвы да былой савецкай арміі, да персоны генерала Фралова яны маюць пэўную павагу. Сведчыць гэта пра многае. Толькі ў мінулым годзе Фралоў тройчы бываў у літоўскай сталіцы. У тым ліку — па запрашэнні літоўскага тэлебачання, якое здымала перадачу пра падзеі дваццацігадовай даўніны.

У той напружанай, рызыкоўнай нечаканасцямі сітуацыі генерал Фралоў узяў на сябе адзіна правільную місію — міратворца. Гэта было якраз рашэнне абачлівага палітыка, але з апорай на вайсковую сілу генерала. Менавіта ён вывез з Вільнюса членаў ЦК Кампартыі Літвы. І ён жа пераканаў перамясціцца за сцены гарнізона маскоўскі АМАП, а праз два тыдні, калі жарсці аціхлі, вывез атрад з Літвы. «Гэтыя байцы, — узгадвае генерал, — зброю б не склалі і проста так не здаліся б. А значыць — кроў, смерці, разрастанне канфлікту з Расіяй. Мірнага разводу з Расіяй, мірнага ўсталявання незалежнасці магло б і не адбыцца».

Дзеяннямі генерала Фралова, трэба меркаваць, засталася задаволеная і Масква: пасля вываду савецкіх войскаў з Літвы яму прапанавалі пасаду камандзіра дывізіі ў Таліне. Аднак ужо стваралася нацыянальная беларуская армія, і ад расійскай пасады Валерый Фралоў адмовіўся.

Спачатку першы беларускі міністр абароны Павел Казлоўскі накіраваў яго служыць у Бабруйск, а праз паўтары гады Фралова перавялі ў Гродна — камандуючым армейскага корпуса, на замену Леаніду Мальцаву, прызначанаму на павышэнне.

Было гэта ў 1994 годзе, незадоўга да прэзідэнцкіх выбараў. Таму, калі на іх перамог Лукашэнка, многія вайскоўцы чакалі аргвысноў. Бо традыцыйна армія працуе на дзеючую ўладу, якую на той час увасабляў прэм'ер Вячаслаў Кебіч. А тут перамог як бы апазіцыянер.

На здзіўленне вайскоўцаў, у тым ліку самога Фралова, але новы прэзідэнт кадравага ператрусу арміі не распачаў. На пасадзе камандуючага танкавым корпусам генерал пратрымаўся яшчэ шэсць гадоў. Хаця асаблівай адданасці не дэманстраваў і па многіх пытаннях меў сваё меркаванне.

Яго адправілі ў адстаўку на пачатку 2000 года. Цікава, што гэта адбылося ў той момант, калі Валерый Фралоў абараняў дыплом Акадэміі кіравання пры прэзідэнце РБ, і адразу ж пасля таго, як ён накіраваў прэзідэнту ліст з абгрунтаваннем неабходнасці рэформ у беларускім войску.

Праз некалькі месяцаў былі чарговыя парламенцкія выбары, і генерал запасу вырашыў пайсці ў палітыку.

## Танкавая палітыка

Як у нас робіцца элегантныя перамогі, добра вядома, але атрымаць дэпутацкі мандат Фралову дапамаглі некалькі фактараў. На той час механізм выбарчай сістэмы яшчэ не быў так бездакорна адшліфаваны. Валерый Фралоў яшчэ быў далёкі ад апазіцыі. Генеральскія пагоны ў вачах уладаў яшчэ ўспрымаліся як гарантыя лаяльнасці. Яны ж працавалі на яго аўтарытэт і ў вачах электарату, які генерал падмацаваў прыроднай дэмакратычнасцю і актыўнымі сустрэчамі з выбарцамі. Але пераадолець галоўны бар'ер яму наўрад ці ўдалося б без актыўнай падтрымкі яго сябра — гродзенскага губернатара Аляксандра Дубко.

Аднак палітыку-танкісту спатрэбілася няшмат часу, каб зразумець, што так званы «парламент» выконвае, паводле трапнага азначэння Валерыя Фралова, ролю падтанцоўкі для юрыдычных шлягераў прэзідэнцкай адміністрацыі. Як і тое, што адзін у полі не воін.

Так, вясной 2001 года была ўтворана дэпутацкая група «Рэспубліка», якая першапачаткова складалася з дванаццаці чалавек, і ў якую, акрамя добра вядомых Уладзіміра Парфяновіча і Сяргея Скрабца, уваходзілі намеснікі кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі, генеральнага пракурора, старшыні КДБ па Брэсцкай вобласці, два старшыні райвыканкамаў, некалькі вельмі ўплывовых бізнэсмэнаў і іншыя. У кожнага з іх была свая матывацыя, але, падаецца, агульнай асновай было адчуванне ўласнага гонару, нязгода на ролю падтанцоўкі.

Не хачу спрачацца з ярымі апалагетамі існуючай сёння стабільнасці, але, калі трое апальных «рэспубліканцаў» потым апынуліся за кратамі, а сам былы кіраўнік дэпутацкай групы быў двойчы збіты, быў аштрафаваны на суму, эквівалентную тром з паловай тысячам долараў ЗША, то і на іх месцы было б не шкодна задумацца, якой цаной гэта стабільнасць забяспечваецца. І якая расплата іх саміх чакае.

Нагадаю яшчэ пра галадоўку ў чэрвені 2004 года трох сяброў «Рэспублікі» (Фралоў, Скрабец і Парфяновіч) на знак пратэсту супраць намераў Лукашэнкі атрымаць трэці прэзідэнцкі тэрмін. Гэта была апошняя апазіцыйная акцыя беларускіх дэпутатаў.

Праз некалькі месяцаў яны страцілі свае дэпутацкія паўнамоцтвы, а ўсе пяць наступных спробаў Валерыя Фралова атрымаць дэпутацкі мандат (рознай вартасці) былі паспяхова нейтралізаваныя. Наступаць на тыя ж самыя граблі ўлада больш не збіралася.

## У межах закону

Менавіта парламенцкія выбары 2004 года падштурхнулі Валерыя Фралова да ўступлення ў апазіцыйную партыю. Адбылося гэта, калі з дапамогай спецслужб Фралову нечакана не хапіла подпісаў для рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты. Ён звярнуўся па дапамогу ў Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю «Народная грамада», якой тады кіраваў Мікола Статкевіч. Паразмаўлялі. Падаў заяву. Так ідэйная блізасць матэрыялізавалася ў партыйную.

Сёння Валерый Фралоў сярод тых, хто падтрымлівае Ірыну Вештард. Больш за тое, абраны намеснікам старшыні сваёй партыі. Не буду блытаць чытачоў назвамі і займаць чыйсьці бок ва ўнутрыпартыйных расколах і спрэчках сацыял-дэмакратаў. Спашлюся толькі на словы самога Фралова: «Вождей много, индейцев мало».

Напэўна, у палітыцы заўсёды цяжка гаварыць тое, што думаеш. Некалькі разоў быў сведкам таго, як словы генерала не прыходзіліся да спадобы ні апазіцыйнай тусоўцы, ні ўладзе. З той толькі розніцай, што ўлада з асаблівай увагай ставіцца да былых вайскоўцаў. Мабыць, добра ведае, хто нясе рэальную пагрозу, а хто віртуальную.

Апошнім часам Валерый Фралоў двойчы арганізоўваў нефармальныя сустрэчы былых вайскоўцаў. Збіралася чалавек 50–60. І двойчы, прыкладна ў той жа колькасці байцоў, у суседнім будынку чакаў адпаведнай каманды атрад АМАП.

Дарэмна, бо Валерый Фралоў у палітыцы прынцыпова прытрымліваецца не рэвалюцыйнага, а эвалюцыйнага алгарытму. Ён заўсёды прынцыпова дзейнічае ў межах існуючага заканадаўства. Нават, калі яно і не вельмі спрыяльнае для апазіцыйнага асяроддзя.

МАДЭРНІЗАЦЫЯ

# ПРАКАПОВІЧ ПАКЛАЎ НАЦБАНК НА ЛАПАТКІ

Сяргей ПУЛЬША

**Дзеля дасягнення эфемернай мадэрнізацыі, мы працягваем наступаць на старыя граблі. Наглядчык за мадэрнізацыяй Пётр Пракаповіч у чарговы раз паклаў сваё былое ведамства — Нацыянальны банк — на абедзве лапаткі.**



Справа ў тым, што на мадэрнізацыю патрэбныя грошы. Пажадана, танныя крэдыты ад банкаў. Патаннець яны могуць, толькі дзякуючы зніжэнню стаўкі рэфінансавання. І вось ужо трэці раз за год Нацбанк зніжае гэтую стаўку. З 15 мая яна складзе 25%.

У цяперашні час стаўка рэфінансавання складае 27% гадавых, Нацбанк зніжаў яе двойчы ў бягучым годзе — 17 красавіка і 13 сакавіка, кожны раз на 1,5%. Чарговае паніжэнне стаўкі рэфінансавання Надзея Ермакова тлумачыць дзікімі поспехамі беларускай эканомікі. Нібыта, інфляцыя ў красавіку ў нас была ніжэй за прагнозныя паказчыкі, а рост ВУП за першы квартал года склаў 3,5%.

Ужо першае зніжэнне стаўкі рэфінансавання выклікала заклапочанасць Міжнароднага валютнага фонду. Паніжэнне стаўкі на 1,5% МВФ назваў «заўчасным», бо неўтаймаваная інфляцыя. Пра гэта ўголас кажуць і банкіры. На канферэнцыі «Эканамічная трансфармацыя — стратэгія развіцця» сябра праўлення ААТ «Белгазпрамбанк» Уладзімір Сажын заявіў, што краіна можа наступіць на тыя ж граблі, што і ў 2011 годзе.

Для яго відавочна, што высокія тэмпы зніжэння стаўкі рэфінансавання ў Беларусі выклічуць адток рублёвых укладаў. Цяпер фізічныя асобы захоўваюць на дэпазітах 87 трыльёнаў рублёў, або 10 мільярдаў долараў. Большая частка з іх — у доларах, рублёвая частка дэпазітаў складае 20 трыльёнаў рублёў, або 2,5 мільярда долараў. Рух у бок зніжэння стаўкі рэфінансавання ён назваў «страшным момантам». «Стаўка рэфінансавання ўпала на 3 працэнтных пункта, і застаецца рэальна станоўчай, у тым ліку ў частцы дэпазітаў. Гэта не пахіснула жадання фізічных асоб захоўваць грошы, але запал скараціла. Дэпазіты зменшыліся не на 3%, як упала стаўка, а на 4,5% — гэта вялікія грошы», — заўважыў банкір.

Выступоўца яшчэ раз падкрэсліў, што, зыходзячы з усіх базавых паказчыкаў, макраэканамічная сітуацыя ў краіне застаецца «вельмі далікатнай, і яна рэальна прымушае ўрад жыць па сродках». «Як толькі мы пакажам, што гатовыя рухацца з вялікім энтузіязмам да паніжэння стаўкі, і могуць быць прыняты адпаведныя дзеянні, магчымыя ўцёкі ад рубля перыяду пачатку 90-х гадоў, калі беларускі рубель не выконваў ні адной сваёй функцыі», — сказаў Сажын.

«Павярнуцца тварам да прадпрыемстваў» загадаў Нацбанку Аляксандр Лукашэнка. І Нацбанк вымушаны выконваць гэтыя загады, нягледзячы на тое, што і там разумеюць памылковасць такой палітыкі.

Але ж і Пётр Пятровіч Пракаповіч на гэтым не спыніўся. Яму мала адной рызыкі, ён дадае яшчэ і іншую — рызыку інфляцыі. На тыдні ён запэўніў Лукашэнку ў «рэальнасці» выхаду да канца года на сярэднюю штомесячную зарплату 650–700 долараў. Паводле Пракаповіча, такую зарплату дасць магчымасць забяспечыць «безумоўнае» дасягненне прагнознага на 2013 год паказчыка па гарантаванай выручцы на аднаго занятага ў эканоміцы ў памеры не менш за 48 тысяч долараў у год.

Аднак, якім чынам улады маюць намер выканаць паказчык па выручцы, Пракаповіч не ўдакладніў. Пэўна, не паведаміў ён прэзідэнту і пра тое, што складскія запасы ў красавіку працягвалі расці. У параўнанні са студзенем-лютым 2012 года ў цэлым па прамысловасці чысты прыбытак знізіўся на 41,6%, рэнтабельнасць — з 11,2% да 7,7%. У такой сітуацыі разлічваць «гарантаваную выручку» можа альбо хлус, альбо вар'ят.

Значыць, заробак у 650 долараў, які ўжо паабяцаў Пракаповіч, будзе зноў дасягацца ўключэннем машынкі для друку грошай. Чым заканчваецца напампоўванне эканомікі пустымі грашыма ў выглядзе крэдытаў прадпрыемствам і неабгрунтаваным ростам заробкаў, мы ўсе ведаем: інфляцыяй і дэвальвацыяй.

Няўжо гэтага не разумеюць ва ўрадзе або ў Нацбанку? Пэўна, выдатна разумеюць. Але ў прэзідэнта новая гулька — «мадэрнізацыя». І зараз усё павінна быць скіраванае для дасягнення гэтай мэты.

Што ж рабіць, каб краіну зноў не напаткаў фінансавы калапс? Пэўна, выйсце толькі адно: сабатаж. Нацбанку не трэба звяртаць увагі на ціск урада і не паніжаць стаўку рэфінансавання. Ураду ж трэба клапаціцца не пра тое, каб выціснуць грошы з беларускіх банкаў, а пра тое, як выціснуць іх з іншых краінаў. Пратэрмінаваная дэбіторская запазычанасць беларускіх прадпрыемстваў расце: у лютым яна павялічылася на 5,1% і на 1 сакавіка 2013 года склала 20 трыльёнаў рублёў, альбо тыя ж 2,5 мільярда долараў. Плюс, распрадаць складскія запасы — і ўвогуле ніякія крэдыты на мадэрнізацыю не спатрэбяцца.

Альбо трэба запаволіць тэмпы мадэрнізацыі. Канешне, прэзідэнт за гэта па галоўцы не пагладзіць. Але пакрычыць і супакоіцца.

Не верыце? Паглядзім на ветэрана мадэрнізацыі — сельскую гаспадарку. У жніўні мінулага года кіраўнік дзяржавы паставіў перад вертыкаллю задачу «пераўтварыць малочна-таварныя фермы ў малочна-таварныя комплексы». Тэрмін выканання — канец 2012 года. Колькасць ферм, якія падлягаюць рэканструкцыі, — 1200. Сёлета міністр сельскай гаспадаркі і харчавання далажыў, што з запланаваных 1,2 тысячы ўведзена ў строй 526 ферм, ці 44% ад задання. Разам з тым, частка з іх уведзена толькі пускавымі комплексамі, а цалкам гатовых і адпаведных патрабаванням ферм, з усім абсталяваннем і даільнымі заламі, і таго менш. Гэта значыць, мадэрнізацыя фактычна правалена.

Больш за тое, па словах прэзідэнта, мадэрнізацыя сельскай гаспадаркі ідзе ўжо дзве пяцігодкі. Аднак, як сказана ў пасланні прэзідэнта ў гэтым годзе, мы да гэтага часу не можам выйсці на бясстратную працу ўсіх гаспадарак. Без уліку дзяржпадтрымкі, прыкладна траціна ад агульнай колькасці сельскіх гаспадарак з'яўляюцца стратнымі. І ніхто за гэта асаблівай адказнасці не панёс.

Дык ці варта руйнаваць эканоміку дзеля такой мадэрнізацыі?

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# КРУГАЗВАРОТ ЗЯМЛІ Ў БЕЛАРУСІ

**Смалявіцкія дачнікі прапануюць беларускім уладам перанесці кітайска-беларускі індустрыяльны парк на тэрыторыю іншага раёна, туды, дзе няма такой вялікай колькасці садовых таварыстваў.**



Магчымасць мець пад сваім бокам нямала кітайцаў вельмі турбуе жыхароў Смалявічаў. Бо калі верыць Белстату, Беларусь мае з Кітаем толькі 4,7% гандлёвага таваразвароту, але кітайцаў паўсюль стала зашмат. У метро, у тралейбусах-аўтобусах. На прылаўках універмагаў кітайскіх прамысловых тавараў нашмат больш, чым беларускіх. Куды не кінь вокам — паўсюдна лэйблы «Made in China». І толькі дзе-нідзе, як кажуць, у гомеапатычных дозах, можна заўважыць нешта пад сціплай шыльдай «Зроблена ў Беларусі». Па дызайнерскіх распрацоўках першых пяцігодак — цвікі, патэльні, бытавая тэхніка пад айчыннымі назвамі, па выгляду падобная да імпартовых, бо, як бы гэта сказаць далікатна, цалкам запазычаныя. На савецкім слэнгу гэта называлася «цельностянутые технологии».

Карацей, беларуская прамысловасць больш шчыравала над колькасцю, а пра якасць прадукцыі забылася. Не дзіва, што яшчэ дваццаць гадоў таму мы абганялі кітайцаў па індустрыяльным развіцці, а зараз ужо Кітай нас абагнаў. І каго ж, як не кітайцаў, запрашаць будаваць індустрыяльны парк для краіны, якая развучылася рабіць добрыя рэчы і выгадна іх прадаваць?

Але дзе ж гэты парк яшчэ будаваць, як не ў Смалявіцкім раёне? Лепшай пляцоўкі і не знайсці: побач сталіца, міжнародны аэрапорт і вельмі спагадлівыя мясцовыя ўлады.

Смалявіцкія ўлады настолькі спагадлівыя да кітайцаў, што значная частка насельніцтва лічыць выканкам самастойным органам улады. Хаця на самай справе ён юрыдычна афармляе тыя рашэнні, якія зробленыя ў Мінску.

Таму дачнікі, якім падаецца, што гэта менавіта смалявіцкі выканкам прымаў рашэнне наконт іх лецішчаў, патрабуюць правесці дзяржаўную экалагічную экспертызу, прызнаць несапраўднымі грамадскія абмеркаванні і ў месячны тэрмін правесці паўторныя абмеркаванні. Скаргу на гэты конт дачнікі адправілі на імя генпракурора Аляксея Канюка.

Мяркуем, усе кампетэнтныя інстанцыі, якія маюць дачыненне да праекта парка, да працэдуры выдзяленне ўчастку, да арганізацыі грамадскіх абмеркаванняў, зладжаных выканкам, маюць па праблеме дастатковую інфармацыю і ведаюць, што з гэтай інфармацыяй рабіць.

А сярод насельніцтва яшчэ трапляюцца экземпляры, якія верылі ў справядлівасць савецкай улады, і вераць у яе зараз. Ім падаецца, што грамадскія абмеркаванні ладзяцца для дасягнення кампрамісу інтарэсаў паміж уладай і насельніцтвам. Не, дыскусіі праводзяцца менавіта тады, калі начальства ўжо вызначылася з патрэбным для сябе рашэннем. Прыкладам, некалькі гадоў таму, ледзь не прысягаючы на канстытуцыі, Лукашэнка паабяцаў правесці рэферэндум наконт будаўніцтва АЭС. АЭС ужо будуюць перадавымі тэмпамі, а пра рэферэндум нешта нічога не чуваць. Затое зрабілі нібыта грамадскае абмеркаванне.

По той жа схеме ўсё зараз робіцца і ў Смалявічах.




Вось людзі скардзяцца, што грамадскія абмеркаванні генеральнага плана Кітайска-Беларускага парка плошчай 8 048 гектараў правялі з парушэннямі заканадаўства. Маўляў, 16 красавіка ўдзельнікі абмеркаванняў падрыхтавалі пісьмовыя заўвагі і прапановы, сабралі каля 500 падпісантаў з ліку актыўных грамадзян, сяброў садаводаў-аматараў і вяскоўцаў, якія палічылі генплан кепскім. А іх ніхто не ўлічыў. Але дзяржава ў нас такая. Яна клапоціцца, каб нас спачатку абадраць, каб ніхто не заўважыў, а пасля паклапаціцца пра канстытуцыю.

Артыкул 44 Канстытуцыі РБ кажа нам пра тое, што дзяржава гарантуе кожнаму права ўласнасці і недатыкальнасці гэтай уласнасці. Але ж дзяржава мае не абавязак бараніць прыватную ўласнасць, але мае і права і абавязак праводзіць адчужэнне ўласнасці на карысць самой сябе, для задавальнення грамадскай патрэбы.

Прыкладам, больш за дваццаць гадоў таму ў Смалявіцкім раёне адбыўся натуральны зямельны перадзел: ад калгасаў адбіралі зямлю (хоць раней яна была выдзелена ім дзяржавай на вечнае і бясплатнае карыстанне) на карысць мінскім дачнікам. Хто гэтыя вельмі зручныя ўчасткі атрымаў? Той, хто меў лепшыя сувязі і прыязныя стасункі з абласнымі і смалявіцкімі ўладамі. Хто тады меў меншыя нефармальныя рэйтынгі, атрымлівалі лецішчы за 101-м кіламетрам ад МКАД.

А наогул, цікава атрымліваецца: раней сяляне адабралі зямлю ў паноў, пасля зямлю ў іх адабрала партыя і перадала калгасам, пасля вертыкальшчыкі адабралі зямлю ў калгасаў і аддалі дачнікам. А зараз адбіраюць, каб аддаць кітайцам. А смалявіцкія дачнікі ўсё яшчэ спадзяюцца, што ад іх зямлі адчэпяцца і забяруць зямлю дачнікаў у нейкім іншым раёне.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 19 МАЯ, НЯДЗЕЛЯ

**Беларусь 1**

**07.05** Камедыя «Сем старых і адна дзяўчына» (СССР).
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Камедыйны серыял «Таткі» (Расія - Украіна). 2-я серыя.
**10.40** Медычныя таямніцы.
**11.15** Кулінарная дыпламатыя.
**11.45** Нашы.
**12.10** Камедыя «Іван Васільевіч змяняе прафесію» (СССР).
**14.10** Клуб рэдактараў.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Анімацыйны фільм « Іван Царэвіч і шэры воўк» (Расія).
**17.05** Заўтра - гэта мы!
**17.30** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.30** Фантастычны баявік «Піраты Карыбскага мора: праклён «Чорнай жамчужыны» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Фэст «Паходня». Урачыстае зачыненне.
**00.20** Камедыйны серыял «Таткі» (Расія - Украіна). 2-я серыя.

**АНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Шалапутныя нататкі».
**09.40** «Пакуль усе дома».
**10.35** «Фазэнда».
**11.10** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.10** Шматсерыйны фільм «Асабістыя абставіны».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Асяроддзе пасялення. «Грошы на вецер».
**17.20** «Смеху дзеля».
**17.45** Прэм'ера. «Вясельны перапалох».
**18.45** АНТ прадстаўляе: «Эстрадны кактэйль».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**23.15** Фільм «Выхаванне Арызоны».

**СТВ**

**06.30** «Салдаты». Серыял.
**08.15** Фільм «16 кварталаў» (ЗША - Германія, 2006 г.).
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Вялікі сняданак».
**11.10** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Кін-дза-дза» (СССР, 1986 г.). 2-я серыя.
**14.10** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Прэм'ера. Фільм «Помста» (Данія - Швецыя, 2010 г.).
**22.50** Прэм'ера. «Пякельная кухня-2». Фінал.
**00.25** Фільм «Нарвежскі лес» (Японія, 2010 г.).

**Беларусь 2**

**07.30** Мастацкая гімнастыка. Этап кубка свету.
**09.10** Пазакласная гадзіна.
**09.35** Тэлебарометр.
**09.40** Пра мастацтва.
**10.05** Камедыя «На спіне ў чорнага ката» («Беларусьфільм»).
**11.55** Лірычная меладрама «Вакзал для дваіх» (СССР). 1-я і 2- я серыі.
**14.30** Тэніс. Рым. Жанчыны. Фінал. Прамая трансляцыя.
**16.20** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**16.55** Хакей. Чэмпіянат свету. Матч за 3-е месца. Прамая трансляцыя.
**19.20** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.25** Хакей. Чэмпіянат свету. Фінал. Прамая трансляцыя.
**00.05** Мастацкая гімнастыка. Этап кубка свету.
**01.40** Спорт-кадр.

**Россия**

**07.00** Фільм «Сіла Веры» (2013 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** Камедыя «У старых рытмах».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Ха». Маленькія камеды.
**14.30** «Чорныя дзюры. Белыя плямы».
**15.25** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**16.00** Фільм «Біццё сэрца» (2011 г.).
**17.50** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** Фільм «Лёс Марыі» (2013 г.).
**23.20** 1/8 фіналу Першай лігі МС КВЗ.

**НТВ**

**06.25** Серыял «Злачынства будзе раскрыта».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Паедзем, паямо!».
**12.25** «Цуд тэхнікі».
**13.00** Сёння.
**13.20** Вострасюжэтны дэтэктыў «Падводныя камяні».
**15.10** Фільм «Апошні герой».
**16.55** «Выратавальнікі».
**17.30** «Вочная стаўка».
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**20.00** Чыстасардэчнае прызнанне.
**20.40** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**21.45** «Жалезныя лэдзі».
**22.35** Фільм «Двое».
**00.15** «Рэакцыя Васэрмана».
**00.45** «Школа зласлоўя». Ток-шоў.

**МИР**

**05.00** Дак. фільм «Скарбы Эрмітажа».
**05.30** Мультфільмы.
**07.35** Праграма «Мільён пытанняў пра прыроду».
**07.50** Мультсерыял «Смешарыкі».
**08.05** Праграма «Ведаем рускую».
**09.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**09.10** Праграма «Даведнік».
**09.35** Праграма «Ежа».
**10.05** Праграма «Незорнае дзяцінства».
**10.30** Маст. фільм «Танцорка Кабарэ».
**13.15** Маст. фільм «Радзіма».
**15.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.50** Тэлесерыял «Пакліканне».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.00** Тэлесерыял.
**21.50** Маст. фільм «Аферыст».
**23.45** Маст. фільм «Танцорка Кабарэ».
**02.30** Маст. фільм «Светлы шлях».
**04.25** Праграма «Даведнік».

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**07.15** Казкі для дзетак.
**07.45** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 20 серыя.
**08.10** Беларусы ў Польшчы.
**08.30** Зона «Свабоды».
**09.00** Еўропа сёння.
**09.30** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**10.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.25** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**10.45** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.10** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**11.30** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.40** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.50** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Нодзі ў краіне цацак».
**12.20** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 20 серыя.
**12.45** «Час гонару», серыял: 32 серыя.
**13.30** «Зямля абяцаная»: 1 серыя.
**14.25** «Таемны свет ўэлнэсу: старажытная Індыя», дак. фільм, 2007 г., Германія–Аўстрыя.
**15.15** «Дзень памінання», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**15.45** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2013», канцэрт: выступ гурта «Strachy na Lachy».
**16.10** «У Бога за пазухай», камедыя, 1998 г., Польшча.
**17.50** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.15** Без рэтушы: «Сакрат Яновіч: як я стаў беларусам», рэпартаж, 2013 г., Польшча.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Таямнічы палёт Рудальфа Гэса».
**19.50** Дакументальная гадзіна.
**20.25** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**21.55** Форум (ток-шоу).
**22.45** «Сямейка Смітаў», рамантычная камедыя, 2005 г., ЗША.
**00.50** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 30.
**01.15** Два на два (тэледыскусія).
**01.40** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

| | |
|---|---|
| Гомель | (8 029) 697 82 75 Аляксандр; |
| Магілёў | (8 029) 930 79 22 Міхась; |
| Мінск | (8029) 178 31 68 Вольга; |
| Бабруйск | (8029) 628 75 01 Вольга; |
| Слуцк | (8029) 364 42 60 Зінаіда. |

**Паважаныя чытачы!**

Кошт аднаго нумара газеты да 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ______

Кассир Всего ______

СВЯДОМАСЦЬ



# ВАЙНА ЗА СЦЯГ

Алег НОВІКАЎ

**Трэці месяц працягваецца змаганне румынскіх венграў за права мець сваю нацыянальную сімволіку.**

Будынак венгерскага парламента апошнія тры месяцы выглядае незвычайна. Месца сцяга Еўрасаюза займае сіне-жоўта-сіні сцяг з выявай паўмесяцу. Гэта сімвал секеяў — венгерскай меншасці ў Румыніі, якая дамагаецца аўтаноміі. За кошт незвычайнай акцыі венгры збіраюцца прыцягнуць увагу міжнароднай супольнасці да пытання правоў секеяў, і ў тым ліку іх права мець сваю сімволіку.

Усяго ў Румыніі жыве каля 700 тысяч секеяў, што складае шэсць працэнтаў насельніцтва. Цікава, што дасюль вядуцца спрэчкі, як такі вялікі арэал пражывання венграў аказаўся далёка ад межаў Венгрыі, у самым цэнтры Румыніі. Адна з забаўных версій — старажытныя венгры выбралі самых моцных суайчыннікаў і адправілі іх на Балканы, каб зрабіць своеасаблівы фарпост на выпадак набегаў з Малой Азіі якіх-небудзь качэўнікаў.

Пасля Першай сусветнай вайны Секейскі край, што раней быў часткай Аўстра-Венгрыі, апынуўся ў складзе Румыніі, якая з рознай інтэнсіўнасцю праводзіла кампанію асіміляцыі венгерскай меншасці. Адзінай перадышкай сталі пасляваенныя часы, калі трансільванскія венгры атрымалі ад камуністаў аўтаномію (у кампартыі Румыніі тады нават існавала спецыяльная секцыя для венграў). Аднак напрыканцы 1950-х гадоў адліга скончыліся: аўтаномію ліквідавалі ў тым ліку з-за венгерскага паўстання 1956-га, калі ўзніклі забабоны, што ўсе венгры — палітычна не надзейныя. З прыходам да ўлады Ніколае Чаўшэску была прынятая новая канстытуцыя, паводле якой Румынія абвяшчалася ўнітарнай дзяржавай.

Венгры, трэба аддаць ім належнае, мужна змагаліся супраць руманізацыі. Так, пасля ліквідацыі венгерскамоўнага ўніверсітэта ў горадзе Клюй некаторыя прафесары на знак пратэсту ўчынілі акт самагубства. Не маючы палітычных сродкаў пратэсту, венгры выкарысталі для выказвання сваіх патрабаванняў спорт. Сімвалам барацьбы за правы этнасу стаў хакейны клуб «Csikszereda», матчы якога дасюль маюць палітычны прысмак. Некаторыя параўноўваюць «Csikszereda» са славутай футбольнай камандай «Barcelona», якая ў часы дыктатуры Франка была сімвалам нацыянальнага супраціву каталонцаў.

Пасля краху камунізму венгерскае пытанне зноў вярнулася ў палітычную павестку. Аднак такой міжнацыянальнай напружанасці, як цяпер, сапраўды, ніколі не было. Палітолагі звязваюць рост эскалацыі з шэрагам фактараў. Некаторыя лічаць, што секеі захапіліся прыкладам касавараў, якія за нейкае дзесяцігоддзе дабіліся незалежнасці ад Бялграду. Другія вінавацяць афіцыйны Будапешт. Там у 2010 годзе да ўлады прыйшла нацыянальна-кансерватыўная партыя «Fidesz» (старшыня Віктар Орбан), якая эксплуатуе тэму правоў венграў за мяжой. У сваю чаргу, венгры ўказваюць на ўпартае нежаданне Бухарэсту рабіць хоць нейкія крокі насустрач. Прапанаваны мясцовым Румынскім венгерскім дэмакратычн+ым саюзам (RMDS) праект культурнай аўтаноміі ляжыць у румынскім парламенце сем гадоў. Румынскім палітыкам бракуе палітычнай волі для яго прыняцця. Яшчэ адна версія звязаная з радыкалізацыяй RMDS, якая, у сваю чаргу, матываваная з'яўленнем новай палітычнай сілы, што крытыкуе саюз за апартунізм і рэфармізм. Гаворка пра Венгерскі грамадзянскі саюз, які, дарэчы, наўпрост падтрымлівае Віктар Орбан. Нарэшце, самая забаўная тэорыя. Будапешт вырашыў дапамагаць венграм, будучы ўражаным тым, як паслядоўна і заўзята Бухарэст змагаецца за інкарпарацыю Малдовы ў склад Румыніі. Па-сутнасці, усе мерапрыемствы Венгрыі ў дапамогу секеям — выдача венгерскіх пашпартоў, права на бясплатную адукацыю на гістарычнай радзіме — паўтор таго, што робіць Румынія ў Малдове.

**Героем Румыніі стала школьніца Алена Сабіна, у якой у венгерскамоўнай школе настаўніца адабрала стужку з выявай колераў румынскага сцягу**

Нагадаем храналогію канфрантацыі. У верасні 2009 года з'езд прадстаўнікоў мясцовых органаў улады Секейскага краю абвясціў аўтаномію. На з'ездзе былі зацверджаны гімн, сцяг, герб і адміністрацыйная карта новай аўтаноміі. Пазней быў створаны адміністратыўны савет краю, які, натуральна, у Бухарэсце ніхто не прызнаў.

Канфлікт перайшоў у новую стадыю, калі ў студзені гэтага года адбыўся інцыдэнт. Прэфект, у прэфектуру якога ўходзіць Секейскі край, перад пачаткам цырымоніі інагурацыі запатрабаваў, каб з залы прыбралі сіне-жоўта-сіні сцяг.

У адказ адзін з лідараў RMDS заклікаў мэраў венгерскіх гарадоў правесці кампанію салідарнасці з секеямі, узняўшы над сваімі муніцыпалітэтамі секейскі сцяг. Ініцыятыву падхапіла шмат венгерскіх гарадоў, у тым ліку ўлады горада Берагова, што ва ўкраінскім Закарпацці. На такіх мерапрыемствах было шмат чыноўнікаў вышэйшага рангу, якія публічна характарызавалі крокі Бухарэста як «сімвалічную агрэсію». А пасол Венгрыі ў Румыніі ўвогуле заклікаў румын змяніць канстытуцыю, новая рэдакцыя якой павінна прадугледжваць аўтаномію венграў.

Ястрабы з румынскага боку адразу кінуліся ў контратаку. «Узняцце сцяга секеяў над будынкам парламента ў Будапешце ўяўляе сабой сімвалічны акт агрэсіі ў дачыненні да Румыніі», — сказаў адзін з дэпутатаў кіруючай сацыял-дэмакратычнай партыі. Аператыўна нарадзілася ідэя тэрытарыяльнай рэформы, у выніку якой венгерскі анклаў падзеляць на тры часткі, што далучаць да румынскамоўных адміністратыўных адзінак. Яшчэ адна задума — закон аб лаяльнасці, які складаецца з трох частак: пазбаўленне румынскага грамадзянства ўсіх, хто мае венгерскія пашпарты; пакаранне за невыкарыстанне афіцыйнай мовы ў публічных установах, школах, лякарнях, крамах; крымінальнае пакаранне за этнічную дыскрымінацыю пры прыёме на працу.

Вайна хутка распаўсюдзілася на іншыя сферы жыцця. Так, героем Румыніі стала школьніца Алена Сабіна, у якой у венгерскамоўнай школе настаўніца адабрала стужку з выявай колераў румынскага сцягу. Настаўніцу пасля звольніў асабіста міністр адукацыі. Пасля прыйшла чарга гісторыкаў. У секейскіх школах з'явіўся надрукаваны ў Венгрыі дапаможнік па гісторыі, у якім сцвярджаецца, што на землях Трансільваніі румыны з'явіліся значна пазней за мадзьяраў і прыслугоўвалі секеям, будучы пры гэтым задаволеныя сваёй доляй. Гісторыкі Румыніі пратэставалі супраць такой трактоўкі.

Праўда, не ўсе паддаліся нацыяналістычным эмоцыям. У Румыніі ўзнік цікавы рух за тое, каб надаць венграм аўтаномію, што, дарэчы, краіна павінна зрабіць адпаведна еўрапейскай Хартыі правоў нацыянальных меншасцяў. Кампанія называецца «Я таксама венгерскі секей» і праводзіцца групай румынскіх ліберальных інтэлектуалаў. «Дзве невялікія краіны на перыферыі Еўропы, якімі кіруюць правінцыйныя і аўтарытарныя лідары, сутыкаюцца з сур'ёзнымі праблемамі — павагай да законаў, эканомікай, аднак увесь іх энтузіязм сыходзіць у самы элементарны нацыяналістычны папулізм», — піша адзін з румынскіх лібералаў.

Між тым, відавочна, што кульмінацыя інтарэсу грамадства да «вайны за сцяг» прайшла. Цяпер Будапешту і Бухарэсту самы час пачаць шукаць кансенсус. Хаця шмат хто скептычна ставіцца да такой перспектывы. У наступным годзе ў Венгрыі выбары, і «Fidesz» важна захаваць нацыяналістычны тонус у грамадстве. Што тычыцца секеяў, дык яны сцягі прыбралі: кіраўнікам адміністрацый, на якіх узняты сцяг, выпісваюць штрафы ў 1000 еўра. Аднак, калі меркаваць па матэрыялах сайту савету Секейскага краю, здавацца секеі не збіраюцца. Так ці інакш, Румынія — сябра ЕС і будзе вымушана паважаць правы меншасцяў.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Пакуль Масква абдумвае новую «нафтавую вайну» супраць свайго бліжэйшага саюзніка, Беларусі, ЕС прывязвае яе да сябе новымі камунікацыямі. У адрозненне ад нецярплівага і прагнага Крамля, Брусэль карыстаецца і бізуном, і пернікам. Як хутка цярпенне ў Мінска скончыцца, і ён пойдзе па шляху Кіева, які зрабіў амаль усё для падпісання пагаднення аб асацыяцыі з ЕС, пакуль не ведае, здаецца, нават сам Лукашэнка. Як распавёў на ўмовах ананімнасці блізкі да ўрада РБ мясцовы дзяржаўны журналіст, беларускія ўлады незадаволеныя дзеяннямі Масквы ўсё больш і больш. «Расія ўсё робіць груба, нахрапам, пастаянна ціскам займаецца, пагражае. А Еўропа куды мякчэй, дыпламатычна, гатовая ўлічваць нашы інтарэсы. Вось і атрымліваецца: ідэалагічна і эканамічна нам быццам бы і больш выгадна быць з Расіяй, але маскоўскія палітыкі паводзяць сябе занадта агрэсіўна», — прыкладна так, паводле яго слоў, сёння разважаюць усе беларускія чыноўнікі ў размовах паміж сабой.

**«Росбалт» (Расія)**

Мадэрнізацыя, да якой прыступілі функцыянеры са «старой гвардыі» Лукашэнкі, з часам лопне, як мыльная бурбалка. Гэта не што іншае, як звычайныя меры па дзяржпадтрымцы стратных прадпрыемстваў, ды яшчэ і ў доўг, якія пад прыкрыццём мадэрнізацыйнай рыторыкі праводзяць у жыццё праверaныя кадры — прэм'ер Мясніковіч са сваім намеснікам Пракаповічам. Вынікам бурнай дзейнасці стане падлік страт ад інвестыцый, якія чыноўнікі хацелі б укласці без агляду на эканамічную мэтазгоднасць праектаў. Гэта выдаткі кадравай палітыкі прэзідэнта Лукашэнкі, які даручае справы старым паслухмяным выканаўцам, а не спецыялістам-рыначнікам, якія кажуць аб неабходнасці мадэрнізацыі ўсёй палітычнай і эканамічнай сістэмы Беларусі.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Беларусь перажывае крызіс нацыянальнай ідэнтычнасці. Па дадзеных Дзяржаўнага беларускага ўніверсітэта і Еўразійскага манітора, якія прыводзіць газета, амаль палова беларусаў не задумваецца пра тое, што краіна можа страціць свае традыцыі і адметнасць. Адсутнасць «нацыяналістычнага запалу» ў Беларусі прывяла да абрання Аляксандра Лукашэнкі і «актыўнай русіфікацыі» краіны. Недахоп нацыянальнай самасвядомасці адрознівае Беларусь ад іншых дзяржаў СНД і ставіць пад пытанне яе здольнасць да стварэння незалежнай будучыні.

**«The Oxonian Globalist» (Вялікабрытанія)**

У Беларусі могуць на заканадаўчым узроўні забараніць перагляд вынікаў прыватызацыі. Гаворка, вядома, ідзе не пра «прыхватызацыю» 1990-х гадоў, якой у Беларусі папросту не было, а пра планы ўладаў па будучым распродажы дзяржуласнасці. «Рыхтуецца да прадстаўлення ва ўрад праект закона, які ўносіць змены ў закон аб прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці і пераўтварэнні дзяржаўных унітарных прадпрыемстваў у адкрытыя акцыянерныя таварыствы», — гаворыцца ў паведамленні беларускага Савета міністраў. Ва ўрадзе адзначаюць, што ў новым законе будзе «забарона на перагляд або адмену вынікаў прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці пасля яе правядзення». Навошта гэты закон спатрэбіўся беларускай уладзе, якая ўвесь гэты час лічылася апорай ці то сацыялізму, ці то дзяржаўнага капіталізму ў Еўропе, на першы погляд не вельмі зразумела. Хутчэй за ўсё, улада такім чынам дэманструе інвестарам (пераважна замежным) гатоўнасць змяніць сваё стаўленне да прыватнай уласнасці.

**«СЛОН» (Расія)**

Вялікую цікавасць да еўрапейскай палітыкі «Усходняга партнёрства» праяўляе Беларусь, але ёй трэба справіцца са сваімі праблемамі. Аляксандр Лукашэнка робіць усё магчымае, каб Расія яго не праглынула. Між тым, Масква імкнецца павялічыць свой уплыў у Беларусі. Лукашэнка шукае магчымасці збалансаваць расійскі і еўрапейскі ўплыў. Латвія палітычна адкрыта для Беларусі, таму можна чакаць большага сяброўства.

**«Leta» (Латвія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. КУБАНЬ ПРОСІЦЦА ВА УКРАІНУ

Украінская грамадскасць з вялікім энтузіязмам каментуе скандал, які меў месца падчас матчу чарговага тура чэмпіянату Расіі па футболе паміж краснадарскай «Кубанню» і санкт-пецярбургскім «Зенітам». Фанаты гаспадароў расцягнулі на трыбунах вялізныя банеры на ўкраінскай мове з надпісам «За ФК «Кубань» — За Батьківщину» і выявай казака, а таксама датай заснавання клуба. Тэкст мае ярка выражаны палітычны падтэкст. Нагадаем, што з канца XVIII стагоддзя Кубань засялялася казакамі, галоўным чынам з Запарожскай сечы. У цяперашні час на Кубані засталося шмат тапонімаў, звязаных з Украінай. Пасля абвяшчэння незалежнасці Украіны ў 1917 годзе Кіеў уключыў у межы будучай украінскай дзяржавы тэрыторыю Кубані. У сваю чаргу, частка створанай на Кубані казацкай рады таксама шукала кантактаў з украінскімі ўладамі. Пасля 1930-х украінскае жыццё на Кубані стала малапрыкметным, аднак часам, як сведчаць падзеі на стадыёне, у Краснадары ўзгадваюць пра свае карані. Але некаторыя лічаць, што ўкраінская самасвядомасць прачнулася з-за таго, што галоўным інвестарам ФК «Кубань» з'яўляецца саўладальнік карпарацыі «Індустрыяльны саюз Данбаса» Алег Мкртчан. Нібыта для таго, каб падзякаваць фундатару, фанаты перайшлі на ўкраінскую мову.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### СІРЫЯ. ТУРКІ АТРЫМАЮЦЬ АЎТАНОМІЮ

Шэраг СМІ абвінавацілі Анкару ў жаданні стварыць на тэрыторыі Сірыі пасля падзення рэжыму Асада аўтаномію для мясцовых туркаў. Сірыйскія туркмены, ці сірыйскія туркі, — цюркскі народ, які пражывае на тэрыторыі сучаснай Сірыі. Трэці па колькасці народ гэтай краіны пасля арабаў і курдаў. У Сірыі — каля 100 тысяч сірыйскіх туркаў (туркменаў, туркоман). Апошнім часам Турцыя паралельна падтрымцы апазіцыі інвестуе ў актывізацыю грамадска-палітычнага жыцця этнічных братоў. Ужо створана інфармацыйнае агенцтва для сірыйскіх цюркаў, друкуюцца часопіс і газета, пачалі працаваць турэцкамоўныя школы. Нават створаныя вайсковыя фарманні. Уся дзейнасць актывістаў з ліку сірыйскіх туркменаў арыентавана на цюркізацыю паўночнай часткі Сірыі, што ў перспектыве можа прывесці да патрабаванняў аўтаноміі, аддзялення і нават далучэння гэтых раёнаў да Турцыі, — лічаць прыхільнікі Асада.

**Паводле інтэрнэт-сайтаў**

### МЕКСІКА. 150 ГАДОЎ ПОДЗВІГУ ЛЕГІЯНЕРАЎ

Упершыню ў гісторыі мексіканскі ўрад адсвяткаваў юбілей адной з самых гераічных баталій у гісторыі. 150 гадоў таму, 29–30 красавіка 1863 года, адбыўся бой паміж мексіканцамі і атрадам французаў, якія ўдзельнічалі ў інтэрвенцыі супраць Мексікі, у мясцовасці Камерон. Сілы былі няроўныя — 65 байцам французскага іншаземнага легіёну супрацьстаялі дзве тысячы мексіканскіх жаўнераў. Аднак легіянеры здолелі ўтрымліваць пазіцыі аж 11 гадзін, забіўшы каля 300 праціўнікаў. У выніку мексіканцы перамаглі, аднак бітва пад Камеронам назаўсёды ўвайшла ў гісторыю. У Францыі 30 красавіка афіцыйна лічыцца Днём славы Французскага легіёна. Доўгі час мексіканцы не жадалі згадваць пра тую падзею. Толькі праз 150 гадоў мексіканская дзяржава арганізавала спецыяльныя мерапрыемствы з нагоды круглай даты і запрасіла прадстаўнікоў Францыі. Парыж і Мехіка не хаваюць, што святкаванне гадавіны будзе спрыяць развіццю кааперацыі паміж дзвюма краінамі.

**Паводле французскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. БУДЗЕ МІНІСТЭРСТВА БАРАЦЬБЫ З НЕАНАЦЫЗМАМ




З такой незвычайнай ініцыятывай выступіла віцэ-старшыня ліберальнай «Свабоднай дэмакратычнай партыі» (FDP) Сабіна Лёйтхойзер-Шнарэнбергер. Як лічыць палітык, грамадству не хапае спецыяльнага органа, які б мог каардынаваць барацьбу з неанацыстамі, за якую зараз адказваюць спецыяльныя дэпартаменты ў паліцыі і Міністэрстве юстыцыі. У выпадку, калі пасля восеньскіх парламенцкіх выбараў FDP застанецца ўрадавай партыяй, такое пытанне, як абяцае Сабіна, будзе абавязкова ўзнятае падчас перамоваў з партнёрамі па ўраду. Актуальнасць стварэння такога дэпартамента выклікана інфармацыяй, якая ўсплыла падчас цяперашняга судовага працэсу над сябрамі мілітарнай групоўкі «Нацыянал-сацыялістычны супраціў» (NSU). Па матэрыялах следства можна заключыць, што неанацысты моцна праніклі ў некаторыя сегменты нямецкага грамадства, напрыклад, у турэмную і падлеткавую субкультуры. Варта таксама сказаць, што саміх свабодных дэмакратаў вельмі часта крытыкавалі за антысеміцкія настроі некаторых сябраў партыі.

**Паводле нямецкай прэсы**

---

▸ ВЫБАРЫ

# ШТРОНАХ НЕ ХАЙДЭР

*Алег НОВІКАЎ*

**Здавалася, за часы цяперашняга крызісу Еўропа пабачыла самыя неверагодныя мадэлі палітычных рухаў: акупанты біржаў, піраты, неаманархісты. Цяпер на авансцэну выходзяць партыі-фірмы.**




5 мая ў аўстрыйскім Зальцбургу прайшлі выбары ў рэгіянальны парламент. Падзея не маштабная, аднак інтарэс да яе ў прэсе вельмі вялікі. Гэта апошнія мясцовыя выбары перад прызначанымі на восень федэральнымі выбарамі. Акрамя таго, яны могуць дапамагчы зразумець патэнцыял новай партыі «Team Stronach» («Каманда Штронаха»). Хаця ў яе гісторыі гэта другія выбары, партыя разглядаецца як адзін з самых цікавых палітычных праектаў, здольных кардынальна змяніць палітычнае жыццё альпійскай рэспублікі.

Усё дзякуючы Франку Штронаху, заснавальніку партыі, у гонар якога яна і названая. Франк Штронах нарадзіўся ў 1932 годзе. Хаця ў хлопца была тэхнічная адукацыя, ён зарабляў на жыццё тым, што гуляў у прафесійны футбол. У 1954 годзе, маючы ў кішэні ўсяго 200 долараў, Штронах адправіўся ў Канаду, дзе фантастычна хутка разбагацеў на здзелках з патрыманымі аўтамабілямі. Пасля створаная ім кампанія выйшла на іншыя рынкі. На цяперашні момант яго фірма «Magna International Inc» — адна з самых вялікіх у Паўночнай Амерыцы, а капітал кампаніі вымяраецца лічбай у 9 мільярдаў долараў.

У 1989 годзе алігарх нечакана згадаў пра гістарычную радзіму, дзе пра яго не забылі, шмат пісалі і нават лічылі лепшай кандыдатурай на пасаду канцлера. Пасля ад'езду з Аўстрыі Штронах займаўся рознымі дабрачыннымі праектамі — будаваў паркі, заснаваў футбольную акадэмію, фінансаваў адзін з венскіх футбольных клубаў, даў грошы на будаўніцтва ў аўстрыйскай сталіцы новай музычнай залы. У 2009 годзе ўзніклі чуткі пра тое, што нямецкі ўрад не супраць прадаць Штронаху і яго партнёрам аўтакампанію «Opel», аднак здзелка не адбылася. Магчыма, таму, што «містар Твістар» знайшоў сабе новую цацку — палітыку.

Яшчэ ў 2011 годзе Франк заснаваў Інстытут за сацыяльна-эканамічную справядлівасць, які таксама ён назваў у свой гонар. Інстытут распрацаваў шэраг альтэрнатыўных законапраектаў ліберальнага характару. Вялікая ўвага таксама надавалася крытыцы еўрапейкай інтэграцыі і пошукам альтэрнатывы. Напрыклад, была распрацаваная канцэпцыя т. зв. «нацыянальных еўра» — агульная еўрапейская валюта, якая існуе паралельна з нацыянальнымі валютамі.

Дзейнасць установы хутка зацікавіла правыя і еўрафобскія партыі, накшталт «Саюзу за будучыню Аўстрыі» (BZO). Палітыкі пачалі актыўна цягнуць Франка пад партыйныя штандары, у тым ліку ў надзеі на спонсарства. Аднак алігарх не даў сябе ачмурыць, і ў жніўні 2012 года заявіў пра намер стварыць уласную партыю. Партыя была прадстаўленая публіцы 25 верасня мінулага года.

Праграма партыі ўтрымлівае такія патрабаванні, як вяртанне Аўстрыі да нацыянальнай валюты, кардынальная рэформа падатковай сістэмы праз замену ўсіх падаткаў адным універсальным падаткам, т. зв. Flat Tax, максімальнае скарачэнне дзяржаўнага апарату, большая ступень федэралізацыі краіны.

Галоўным чалавекам партыі, паводле статуту, лічыцца Obmann (старшыня). Гэтую пасаду, зразумела, займае сам Штронах. Статут надае яму вялікія паўнамоцтвы, у тым ліку выключнае права выказваць пазіцыю партыі на публіцы. У старшыні ёсць намеснік. Наступны орган па значнасці — кіраўніцтва партыі, у склад якога зараз уваходзяць 10 чалавек. Хаця сябры кіраўніцтва могуць па статуту дыскутаваць з лідарам, усе рашэнні прымае выключна ён. Як піша прэса, па сутнасці структура партыі — гэта структура прыватнай фірмы, дзе апошняе слова мае бос. Аглядальнікі пішуць, што да такога нахабства не даходзілі нават украінскія і расійскія алігархі.

Першыя крокі новастворанай структуры паказалі сур'ёзнасць намераў мільярдэра. Па-першае, на працягу зімы была створаная арганізацыйная сетка на месцах. Штронах не стаў выдумляць веласіпед. На месцах базай партыі сталі перабежчыкі з розных правых партый, у першую чаргу BZO. За кошт «варагаў» была сфармаваная і фракцыя «Каманды Штронаха» ў нацыянальным парламенце. На цяперашні дзень яе сябрамі з'яўляюцца 5 чалавек, якія збеглі з усё той жа BZO. Важна дадаць,што партыя Штронаха лічыцца самай багатай партыяй у краіне. Заснавальнік перавёў на яе рахунак каля 9 мільёнаў еўра. Дарэчы, у зямлі Ціроль паміж дэпутатамі, што хацелі перайсці ў лагер Франка, нават узнікла бойка, якую давялося разнімаць паліцыі.

Упершыню «Каманда Штронаха» паспрабавала сябе на выбарах 3 сакавіка 2013 года, калі ў шэрагу аўстрыйскіх земляў абіралі парламенты. Першы блін не быў для Штронаха камяком. У зямлі Карынтыя «Каманда Штронаха» атрымала 11 працэнтаў, у Ніжняй Аўстрыі — 9,8 працэнта, аднак правалілася ў Ціролі (3,4 працэнта). Франк, дарэчы, ужо паставіў перад аднапартыйцамі задачу — сабраць на восеньскіх выбарах не менш за 10 працэнтаў. На цяперашні дзень рэйтынг «Каманды Штронаха» — прыкладна 9–12 працэнтаў. Сам Штронах не хавае, што марыць пра пасаду канцлера. Паводле аўстрыйскіх мерак, каб сур'ёзна разлічваць на такую пасаду, трэба мець як мінімум траціну дэпутацкага корпусу.

Адзін з сацыялагічных інстытутаў ужо намаляваў партрэт тыповага сімпатызанта Штронаха. Гэта галоўным чынам мужчына трошкі маладзей за 40 гадоў, які мае сярэдні заробак. Як правіла, гэта прадстаўнік тэхнічнай прафесіі або супрацоўнік офісу. Калі верыць сацыёлагам, электарат партыі Франка слаба арыентуюцца ў партыйнай праграме або ўвогуле яе не чытаў. Як правіла, галоўны аргумент галасаваць за Франка — «ён лепш за ўсіх разумее, што такое эканоміка». Таксама падабаецца выбаршчыкам Штронаха тое, што іх кумір супрацьстаіць старой палітычнай эліце. Шмат каго прываблівае ў выступах Штронаха яго выразная нянавісць да феміністкага руху і іранічнае стаўленне да жанчын-палітыкаў.

Прагрэсіўная публіка не толькі ў Аўстрыі ў шоку ад амбіцый Штронаха. Па-сутнасці, еўрапейцы ледзь адышлі ад Ёрга Хайдэра — лідара правай папулісцкай «Аўстрыйскай партыі свабоды» (FPO), якая ў 2002 годзе стала трэцяй партыяй у краіне і ўвайшла ў кааліцыйны кабінет з кансерватарамі. Знаходжанне ў складзе ўраду запоўнілася масай скандалаў, звязаных з праявамі сімпатый хайдэраўцаў да нацызму. У сярэдзіне нулявых гадоў папулярнасць партыі Хайдэра пачала падаць. Хаця партыя дасюль застаецца ў вышэйшым дывізіёне аўстрыйскай палітыкі (сам Ёрг загінуў у аўтакатастрофе ў 2008-м), аднак цяпер фантом правага папулізму вярнуўся ў выглядзе заакіянскага мільярдэра.

Адным словам, атрымліваецца, што маюць рацыю гісторыкі, якія пішуць, што Аўстрыя — не ахвяра фашызму, а яго радзіма. Ідэя прыналежнасці да нейкай элітнай нацыі прапісалася з часоў Аўстра-Венгрыі ў масавай свядомасці аўстрыйцаў і рэгулярна праяўляецца ў высокіх рэйтынгах правых папулістаў. Праўда, у такой пазіцыі ёсць крытыкі. Яны лічаць, што феномен Штронаха — гэта следства агульнай еўрапейскай эрозіі даверу для традыцыйных партый. Акрамя таго, з'яўленне Штронаха здольнае разваліць увесь правы радыкальны фланг і назаўсёды пазбавіць аўстрыйскую палітыку ад рэштказ спадчыны Ёрга Хайдэра.

СПОРТ І ПАЛІТЫКА

# БАЙКОТУ НЕ БУДЗЕ

Алег НОВІКАЎ

**На надзвычайнай сесіі Нацыянальны алімпійскі камітэт (НАК) Грузіі прыняў рашэнне аб удзеле алімпійскай зборнай краіны ў зімовай алімпіядзе ў Сочы ў 2014 годзе. Рашэнне шмат каму з грузін не падабаецца.**




Паведамляецца, што з прысутных на сесіі дэлегатаў — прадстаўнікоў розных спартыўных федэрацый — ні адзін не прагаласаваў супраць удзелу Грузіі ў сочынскіх гульнях. Рашэнне гістарычнае, паколькі прадстаўнікі былой кіруючай партыі прэзідэнта Міхаіла Саакашвілі «Нацыянальны рух» разглядалі байкот як адну з галоўных знешніх палітычных акцый Грузіі. Пад байкот была распрацавана цэлая ідэйная платформа, якую неадназоразова агучваў былы прэзідэнт Грузіі.

Галоўным тэзісам на карысць байкоту было тое, што алімпійскія гульні з'яўляюцца аднадушным мірным жэстам народаў свету. Дзяржаву-парушальніцу гэтага імператыву патрэбна байкатаваць, як было ў 1980 годзе з СССР, які пачаў інтэрвенцыю ў Афганістан. На думку прыхільнікаў Саакашвілі, у наш час тагачаснага савецкага агрэсара ўвасабляе пуцінская Расія. Яна дэ-факта акупіруе Абхазію і Паўднёвую Асецію, якія паводле ўсіх міжнародных канвенцый належаць Грузіі.

Таксама Міхаіл Саакашвілі, будучы прэзідэнтам, ахвотна нагадваў Расіі эпоху каланізацыі Каўказу, падчас якой з прычарнаморскіх тэрыторый былі выселеныя карэнныя народы. Горад Сочы, на думку грузінскага экс-лідара — гэта «тэрыторыя, дзе меў месца генацыд чаркесаў у другой палове XIX стагоддзя». Магчыма, варта нагадаць, што некаторыя гісторыкі ў Тбілісі да гэтага часу лічаць Сочы грузінскім горадам, які грузіны здалі Расіі пасля агрэсіі дзянікінскіх войскаў у 1919 годзе супраць незалежнай Грузіі.

Працўнікі правядзення Алімпіяды ў Сочы адзначалі таксама і экалагічныя праблемы, якія прынесла падрыхтоўка да гульняў. Пра гэта еўрапейскія Зялёныя неадназоразова распавядалі ў Еўрапарламенце. Нарэшце, Саакашвілі ўзгадаў і пра небяспеку для ўдзельнікаў алімпіяды з-за напружанай сітуацыі на Паўночным Каўказе.

Расійскі бок звяртаў мала ўвагі на пагрозу няўдзелу Грузіі ў Алімпіядзе. На адным з вядучых расійскіх каналаў нават быў агучаны жарт: можна стварыць незалежную ад Саакашвілі зборную Грузіі для ўдзелу ў зімовай Алімпіядзе–2014 з тых 2 мільёнаў грузін, што жывуць у Расіі.

Аднак некаторыя пужалі расіянаў тым, што Грузія збіраецца закупіць зброю ў ЗША, каб узброіць сваё войска па апошнім слове тэхнікі, каб падчас правядзення алімпійскіх гульняў арганізаваць правакацыі. Так, прынамсі, пісаў сайт briansk.ru.

Цікава, што актыўная антыалімпійская рыторыка Саакашвілі спадабалася часткі расійскага грамадства. На антыпуцінскіх інтэрнэт-форумах заўсёды хапала і дасюль хапае каментараў на тэму «Што агульнага паміж сусветным спортам і Расіяй, якая паміраe на дне каналізацыі? Каму патрэбна гэтая алімпіяда, акрамя тых, хто на ёй займее грошы?»

Аднак у выніку перамогі на восеньскіх прэзідэнцкіх выбарах у Грузіі Бідзіна Іванішвілі расклад у падыходах да Сочы–2014 змяніўся. І хаця яшчэ ў сакавіку «Нацыянальны рух» прапанаваў схему сістэмнага байкоту алімпіяды, задуму ў грузінскіх алімпійскіх установах не падтрымалі. На ўсе аргументы партыі Саакашвілі спартыўныя чыноўнікі заяўляюць, што алімпіяда патрэбна перш за ўсё самім грузінскім спартсменам. Публіку пужаюць тым, што, калі Грузія адмовіцца ад удзелу ў Сочы, Міжнародны алімпійскі камітэт (МАК) не толькі аштрафуе грузінскі бок, алё і ўвогуле ўвядзе санкцыі, аж да дыскваліфікацыі каманды на наступнай алімпіядзе ў Рыа-дэ-Жанейра.

Генеральны сакратар грузінскага НАК Эмзар Зенаішвілі кажа, што байкот негатыўна адаб'ецца на развіцці спорту і алімпізму ў Грузіі і нанясе шкоду іміджу грузінскага спорту ў цэлым. Паводле яго слоў, у выпадку байкоту наступствамі санкцыяў можа быць блакада ўсіх еўрапейскіх донарскіх праграм, якімі карыстаўся Нацыянальны алімпійскі камітэт Грузіі.

Часта цытуецца галоўная грузінская алімпійская надзея зімовых гульняў — фігурыстка Алена Гедэванішвілі: «Вядома, я б хацела выступаць у Сочы. Алімпіяда — мара кожнага спартсмена».

Яшчэ адна фішка прапаганды Іванішвілі: байкот нічога не вырашае. Адзін з праўладных аналітыкаў піша: «Не бачу прычын, па якіх грузінская зборная павінна абвясціць байкот сама сабе — менавіта сама сабе, паколькі адсутнасць нашай зборнай у Сочы не заўважыць ніхто, акрамя нас саміх. Я, вядома, усё разумею, але адна справа — байкот ЗША маскоўскай Алімпіяды і байкот СССР Алімпійскіх гульняў у Лос-Анджалесе. Яны маглі сабе дазволіць такую раскошу, і зусім іншая справа — Грузія. Мы ўжо абвясцілі эканамічную блакаду Расіі, перакрыўшы чыгуначны рух у 1991 годзе. Расія гэтага, відома, не заўважыла, затое эканоміка Грузіі паваліласа надоўга».

А вось так прапагандысты аспрэчваюць тэму пра генацыд чаркесаў: «Аргумент пра тое, што Сочы — гэта зямля, дзе быў генацыд, і адкуль выгналі мясцовае чаркескае насельніцтва, гучыць, з маральнага пункту гледжання, цалкам прыгожа, але ён не спадабаецца нікому — ні амерыканцам, які выгналі індзейцаў з іх земляў, ні мексіканцам, якія знішчылі пад корань цывілізацыю ацтэкаў... А яшчэ трэба забараніць усё спартыўныя гульні ў Перу, дзе ад інкаў засталіся рожкі ды ножкі. І ў Егіпце, дзе мясцовыя заваёўнікі-арабы не маюць ніякага дачынення да будаўнікоў пірамід. Гэтую кружэлку лепш і не заводзіць — не вядома, на чыёй вуліцы выбухне бомба. Увогуле, Сочы–2014 не мае ніякага дачынення да Расіі. Гэтае асаблівыя міжнародныя спаборніцтвы пад эгідай МАК».

Зразумела, што толькі нешматлікія палітолагі паверылі ў тое, што Тбілісі кіруецца ў міжнароднай палітыцы алімпійскімі прынцыпамі барона Кубертэна. На думку экспертаў, у грузінскага прэзідэнта ёсць іншыя прычыны тэрмінова фармаваць дэлегацыю спартоўцаў у Сочы.

Расійска-грузінскія дыпламатычныя адносіны былі разарваныя падчас ваеннага канфлікту 2008 года і не адноўленыя да гэтага часу, хоць абнаўленне парламента і ўраду Грузіі па выніках мінулых выбараў прынесла ў адносіны Масквы і Тбілісі прыкметнае пацяпленне. Без паездкі грузінаў у Сочы працэс можа быць замарожаны, што, здаецца, не патрэбна нікому. Адным словам, спорту зноў наканавана выканаць ролю нефармальнага дыпламата.

Між тым, грузінская апазіцыя мае намер і далей агітаваць за байкот. «Расійскія санкцыі перажылі, і санкцыі МАК перажывем, а калі пытанне пра байкот узнімецца, тады яно будзе, па-першае, заўважаным, а па-другое, з'явіцца яшчэ адна пляцоўка, адкуль усяму свету будзе заяўлена пра прычыну байкоту. Так што ў гэтым выпадку адсутнасць нашых біятланістаў у Сочы прынясе больш карысці для краіны, чым іх прысутнасць», — сцвярджаюць апаненты Іванішвілі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ОЛІВЕР МАРЫЯ ШМІТ



Рэдактар вядучага нямецкага сатырычнага часопісу «Titanik», сябра нямецкай сатырычнай партыі, якая так і называецца — PARTEI (Партыя), афіцыйна абвясціў пра пачатак выбарчай парламенцкай кампаніі (нагадаем, што выбары ў бундэстаг пройдуць у верасні). У выпадку перамогі менавіта Олівер стане новым канцлерам Германіі. PARTEI таксама можна расшыфраваць як Партыя за працоўныя месцы, прававую дзяржаву, абарону жывёл, інтарэсы эліты і базісныя дэмакратычныя ініцыятывы. Увогуле, на выхадкі PARTEI раней можна было б і не звяртаць ніякай увагі. Усе папярэднія кампаніі партыі ўяўлялі сабой багемныя акцыі не столькі з мэтай набраць галасы, колькі дзеля таго, каб рэкламаваць свой «Titanik». Адсюль і сціплыя вынікі: 0,2–0,3 працэнта. Аднак у часы крызісу, які выклікаў хвалю недаверу да старых партыі, да праекту Шміта і яго ініцыятывы сталі ставіцца больш сур'ёзна. Асабліва ўразіў публіку вынік выбараў мэра Франкфурту ў мінулым годзе, калі кандыдата ад PARTEI атрымаў 1,8 працэнта. Левыя партыі баяцца, што ўвосень PARTEI, за якую галасуюць моладзь і людзі левых поглядаў, зможа зноў набраць больш за адзін працэнт. У выніку зялёным і эсдэкам можа не хапіць у парламенце мандатаў для фармавання ўрадавай большасці.

### НУРСУЛТАН НАЗАРБАЕЎ



Саюз мусульман ва ўскоснай форме прыгразіў Назарбаеву смяротным пакараннем. На думку мусульман, Назарбаеў павінен быць пакараны смерцю, калі ён і пасля 80-ці гадоў захоча заставацца казахскім гарантам. «Паводле даследаванняў навукоўцаў, крытычным для чалавека з'яўляецца ўзрост у 80 гадоў. Пасля яго дасягнення пачынаецца імклівая дэградацыя асобы. Чалавек, старэйшы за 80 гадоў, не здольны кіраваць краінай. На жаль, гісторыя ведае нямала прыкладаў, калі дзяржаўныя дзеячы ў сілу старэчай прыдуркаватасці даводзілі грамадства да поўнага хаосу... У выпадку, калі кіраўнік дзяржавы па дасягненні 80-гадовага ўзросту імкнецца і далей кіраваць краінай, ён павінен быць пакараны, незалежна ад яго жадання», — лічаць у Саюзе мусульман. З улікам таго, што 72-гадовы Назарбаеў нікому аддаваць уладу не збіраецца, заява мусульман, па казахскіх мерках, яўна экстрэмісцкая. Аднак пакуль Саюз мусульман не чапаюць. Магчыма, таму, што ён ужо мае імідж блазна. Гэтай вясной Саюз мусульман ужо адзначыўся законапраектам аб крымінальным пакаранні за чханне на «высокапастаўленых асобаў». На думку арганізацыі, у Крымінальным кодэксе павінен з'явіцца артыкул, паводле якога грамадзяне могуць быць пакараныя за наступныя ўчынкі: «пляўкі ў напрамку высокапастаўленых асоб і брыдкаслоўе ў іх адрас, дэманстрацыя кулакоў і фігур з трох пальцаў, дэманстратыўнае калупанне ў носе і чханне ў напрамку высокапастаўленых асоб».

### ЕЛІЗАВЕТА ІІ



Упершыню за 40 гадоў брытанскі манарх не будзе ўдзельнічаць у саміце лідараў краін Брытанскай садружнасці (альянс краін — былых англійскіх калоній). Апошні раз такі выпадак меў месца ў 1973 годзе. Гэта навіна адразу выклікала шквал інсінуацый наконт стану здароўя каралевы і кандыдатуры яе пераемніка. Як вядома, па закону аб спадчыне ім павінен быць прынц Чарльз, хаця большасць брытанцаў сімпатызуюць прынцу Вільямі, старэйшаму сыну Чарльза і прынцэсы Дыяны. Падобныя настроі назіраюцца і ў былых калоніях Брытаніі. Каралеўская прэс-служба, між тым, сцвярджае, што стан здароўя манарха добры. Аднак з улікам таго, што каралеве 87 гадоў, далёкі пералёт (саміт адбудзецца на Шры-Ланцы ў лістападзе) будзе для яе няпросты. Навіна пра рашэнне каралевы выклікала задавальненне сярод праваабарончых груп, якія заклікаюць урады краін Брытанскай садружнасці байкатаваць сустрэчу ў Шры-Ланцы. На іх думку, гэта краіна не мае права прымаць саміт з-за парушэння правоў нацыянальнай меншасці тамілаў. У 2009 годзе каля 40 тысяч чалавек былі забітыя вайскоўцамі, што выклікала абурэнне ў свеце. Вядома, што канадскі прэм'ер ужо выставіў умову для свайго візіту на саміт. Ён гатовы прыехаць, калі ўрад распачне крымінальныя справы супраць арганізатараў згаданых вышэй масавых забойстваў тамілаў. Больш жадаючых публічна падтрымаць тамілаў сярод лідараў Брытанскай садружнасці пакуль няма.

ЦІКАВА

# ЁН ЛЮБІЎ БЕЛАРУСАЎ І НАШЫ ПЕСНІ

Сяргей ЧЫГРЫН

**Упершыню я даведаўся пра ўкраінскага харавога дырыжора, кампазітара і фалькларыста Аляксандра Кошыца (1875–1944), калі прачытаў кнігу Рыгора Шырмы «Песня — душа народа».**


Фота з архіва аўтара

Аляксандр Кошыц

Рыгор Раманавіч пра Кошыца згадвае так: «Прафесар Аляксандр Кошыц падараваў нам ужо дзесяць аранжыментаў, кожны з якіх — шэдэўр харавой мастацкай літаратуры. Найлепшыя з іх калядкі — «Там за садамі», «Прасвятая Марыя» і валачобная «Лугам зеляненькім». А часопіс «Беларускі летапіс» (1938, № 2) дадае: «Гэты цэнны ўклад у нашу музычную літаратуру яшчэ пабольшыцца, а імя прафесара Аляксандра Кошыца застанецца несмяротным не толькі ў гісторыі ўкраінскай музыкі, але і беларускай».

Аляксандр Кошыц — украінец. Нарадзіўся ён у сям'і святара на Кіеўшчыне. Вучыўся ў Кіеўскай духоўнай акадэміі, але сан святчэнніка не прыняў. Працаваў у духоўнай жаночай гімназіі ў Стаўрапалі, сабраў і апрацаваў 500 песень. У 1904 годзе прыехаў у Кіеў, дзе паступіў у музычна-драматычны інстытут. Пазней працаваў у гэтым інстытуце, вёў клас харавых спеваў і адначасова вывучаў кампазіцыю ў прафесара Любамірскага. З 1911 года дырэкцыя Імператарскага музычнага вучылішча прапанавала Аляксандру Кошыцу весці клас харавых спеваў у вучылішчы, а пазней — у кансерваторыі.

У 1917 годзе Украінская Цэнтральная Рада даручыла Аляксандру Кошыцу ўзначаліць Музычную тэатральную камісію, якая пазней была перайменавана ў Міністэрства мастацтваў Украіны. У 1919 годзе Сімон Пятлюра прапанаваў Кошыцу стварыць Украінскую рэспубліканскую капэлу. Капэла была створана, і яе артысты з дазволу Пятлюры выехалі на гастролі па Заходняй Еўропе і Амерыцы. Гэты калектыў на той момант быў лепшым на Украіне. І ён сродкамі мастацтва інфармаваў свет пра барацьбу ўкраінскага народа за сваю незалежнасць. Але пасля ліквідацыі Украінскай Народнай Рэспублікі Аляксандр Кошыц ужо не змог вярнуцца з калектывам на Бацькаўшчыну.

Украінская рэспубліканская капэла Аляксандра Кошыца паспяхова гастралявала ў Чэхаславакіі, Аўстрыі, Швейцарыі, Францыі, Германіі, Англіі, Польшчы, Іспаніі і іншых дзяржавах. У 1922 годзе Кошыц са сваім калектывам паехаў у турнэ па Амерыцы, дзе карыстаўся вялікім поспехам, чым у Еўропе. Хор атрымаў прызнанне ў ЗША, Уругваі, Бразіліі, Мексіцы, Канадзе, Кубе. Нягледзячы на ўсе трыумфы, Аляксандру Кошыцу заўсёды не давала спакою настальгія па Радзіме. Сваім сябрам ён пісаў: «Адзіная мая надзея, што трымае мяне на зямлі і дае сілы жыць, — гэта быць перад смерцю дома, убачыць мілых людзей, мой дарагі Кіеў, маю Украіну».

Яшчэ ў 90-х гадах XIX стагоддзя ў сваёй роднай вёсцы Тарасаўка Кіеўскай губерні Аляксандр Кошыц запісаў украінізаваную беларускую песню «Свеця месяц, свеця ясны», якая на Украіну завандравала разам з беларускімі плытнікамі. Песню гэту ўкраінскі кампазітар не мог забыць і пазней, калі ў 1929 годзе ў Парыжы запісаў другі яе тэкст, пачуўшы ад аднаго ўкраінца-эміграната, які некалі чуў і вывучыў песню ад беларусаў-плытнікаў, якія працавалі на Дняпры каля мястэчка Трыполле на Кіеўшчыне. Вялікі мастак адразу звярнуў увагу на красу беларускай песні: «Гэта чаруючы, цудоўны ўзор народнага кантрапункту, да якога проста страх дакрануцца рукой аранжыроўшчыка. Я яе так і пакінуў, як яна пяецца, і думаю, што ніякай ноты немагчыма дабавіць да гэтага шэдэўру народнай творчасці» («Беларускі летапіс», 1938, № 2).


БЕЛАРУСКІ
ЛЕТАПІС
№ 2 ТРАВЕНЬ — ЖНІВЕНЬ 1938 г. ГОД ІІІ
Праф. АЛЯКСАНДАР КОШЫЦ

У 1930-х гадах Аляксандр Кошыц ліставаўся з Рыгорам Шырмам. З канадскага горада Вініпега, дзе жыў і памёр украінскі кампазітар, ён дасылаў Рыгору Шырме свае песні, а таксама музычныя творы ўкраінцаў Кірыла Стэцэнкі (1882–1922) і Арцемія Ведэля (1767–1808), часцей за ўсё іх царкоўныя музычныя кампазіцыі. Некаторыя Рыгор Шырма ўключаў у рэпертуар і свайго хору. Рыгор Шырма, высока ставячы Кошыца як музычнага этнографа і кампазітара, прыцягнуў яго ўвагу да беларускага музычнага фальклору. Апрацоўкі дасланых Шырмам песень (валачобная «Лугам, лугам зеляненькім», калядная «Там за садамі», дажынкавая «Ой, у садочку цвіла лілея», любоўна-лірычныя «Гыля, гыля, мае шэры гусі», «Ой, выйшла маці», «Закукавала зязюлька», «Прыляцелі гусі», «Ой, у садзе-вінаградзе») сведчаць пра ўласцівыя Аляксандру Кошыцу веданне хору, тонкі густ, клопат аб захаванні асаблівасцей ладавай будовы і шматгалосся народнай першакрыніцы, адрозніваюцца натуральнасцю голасавядзення. Яны ўваходзілі ў рэпертуар Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы Беларусі, былі апублікаваныя ў анталогіі «Беларускія народныя песні (для хору)».

«Беларускія песні цудоўныя, і па духу, слову і музыцы родныя нам, украінцам. Мне здаецца, што ўкраінскія песні вельмі блізкія да беларускіх і стылістычнай, і меладычнай структурай, бо са старых часоў наша гісторыя была больш супольная, чым цяпер», — пісаў Рыгору Шырме Аляксандр Кошыц. Так, нашы песні сплёліся, як сплёталіся часта доля і нядоля нашых народаў. Беларусы часта ўцякалі ці іх высялялі сілай на шырокія і вольныя стэпы Украіны. А разам з сабой неслі яны туды сваю родную песню. А калі вярталіся, то з Украіны прывозілі дамоў песні ўкраінскія. Вось чаму часта ў нас і сёння можна пачуць украінскую «Капаў, капаў крынічаньку» ці «Цякла рэчка невялічка», а на Украіне — беларускую «Свеця месяц, свеця ясны».

У траўні-жніўні часопіс «Беларускі летапіс» за 1938 год надрукаваў урывак з ліста да Рыгора Шырмы ўкраінскага кампазітара. Аляксандр Кошыц пісаў: «Пала мне ў вока ваша калядка «Ува Іардані» — і не мог стрымацца ад спакусы з'аранжыраваць яе на хор. Гэтую калядку я ведаю даўно, бо сам запісаў яе на Украіне ў Звенігарадскім павеце, у маёй роднай Тарасаўцы. Але ваша калядка крыху адметная ад нашай і структурай, і тэкстам, хаця толькі ў драбніцах, бо ўсё тое ж самае. Меладыйны контур вашай калядкі вельмі цэнны і цікавы, а непарочная яе чысціня, святасць і ціхае святло радасці, якім яна гарыць, быццам белая васковая свечачка з пяшчотным агнём і светлымі слёзкамі воску, — да таго ўзварушае душу, што я пераіграўшы некалькі разоў аранжымент, аж заплакаў...».

Вось як рабіў аранжыроўку ўкраінскі прафесар беларускіх песень! Вось чаму, пасля такой аранжыроўкі, беларуская песня, захоўваючы сваю крышталёвую чысціню, адначасова атрымлівала новую цудоўную вопратку. Вось чаму беларуская народная песня застаецца неўміручай заўсёды.

У хроніцы часопіса «Беларускі летапіс» (№ 4–5) за 1938 год паведамлялася, што кампазітар Аляксандр Кошыц зрабіў аранжыроўку на змешаны хор беларускай народнай песні «Прыляцелі гусі». «І на гэты раз, як заўсёды, вялікі мастак падараваў для беларускай культуры новы дыямент сваёй творчасці», — падкрэсліў часопіс. Толькі ў 1938 годзе да 10 беларускіх песень дакранулася працавітая рука вялікага ўкраінскага кампазітара. Пра гэта так пісала амаль уся заходнебеларуская прэса. А той жа часопіс «Беларускі летапіс» у 1938 годзе нават змясціў партрэт Аляксандра Кошыца на першую старонку.

ВЫБІТНЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# БРАТЫ ДЫБОЎСКІЯ — НАВУКОЎЦЫ І ПАЎСТАНЦЫ

Лявон ЦЕЛЕШ

**Тыя, каму даводзілася праязджаць па дарозе Дзяржынск — Рубяжэвічы, маглі заўважыць занядбанага выгляду старадаўнюю пабудову на павароце да вёскі Баравое. Гэта — рэшткі капліцы, магільнага склепу шляхецкага роду Дыбоўскіх, якія валодалі ў Койданаўскай воласці (цяпер Дзяржынскі раён) шматлікімі маёнткамі і фальваркамі.**



Бенядзікт Дыбоўскі



Уладзіслаў Дыбоўскі



Фота аўтара

Капліца Дыбоўскіх



Герб Наленч

Радавы маёнтак Дыбоўскіх знаходзіўся непадалёку ад капліцкі — у вёсцы Баравое. Шляхецкі род Дыбоўскіх быў вядомы з XVI стагоддзя, меў герб «Наленч». З гэтага ж старажытнага роду паходзяць і вядомыя вучоныя, браты Дыбоўскія — Бенядзікт і Уладзіслаў, якія нарадзіліся ў фальварку Адамарын Вілейскага павета (цяпер Маладзечанскі раён), недалёка ад вёскі Дудрова. Ёсць меркаванне, што хрысцілі братоў у Койданаўскім касцёле Святой Ганны. Абодва мелі выдатныя здольнасці і ўсё сваё жыццё аддалі навуцы.

## Бенядзікт

Старэйшы брат, акадэмік, прафесар, прыродазнавец, заолаг і ўрач, Бенядзікт Іванавіч, нарадзіўся 12 мая 1833 года. Сёлета споўніцца 180 гадоў з дня яго нараджэння. У дзіцячыя гады Бенядзікт любіў разам з бабуляй хадзіць на луг, дзе яны збіралі лекавыя травы. Бабулька лячыла імі прыгонных сялян.

Ужо тады, гледзячы на людскія пакуты, хлопчык вырашыў стаць урачом. Першапачатковыя веды ён атрымаў у Мінскай гімназіі, затым скончыў Дэрпцкі (цяпер Тартускі) універсітэт па спецыяльнасці «медыцына». Дзякуючы свaім выдатным здольнасцям, Бенядзікт атрымаў ступень доктара медыцыны і застаўся ва ўніверсітэце, дзе ён рыхтаваў сябе да прафесарскай дзейнасці. Аднак яго марам не далі спраўдзіцца ўдзел у дуэлі, а затым і ў антыўрадавых дэманстрацыях.

Малады вучоны мусіў выехаць за мяжу, дзе працаваў на кафедрах Берлінскага і Вроцлаўскага ўніверсітэтаў. У 1862 годзе Бенядзікт быў абраны прафесарам заалогіі і анатоміі Галоўнай школы ў Варшаве. Але тут навуковая кар'ера маладога вучонага перапыняецца. Бенядзікт зблізіўся з арганізатарамі паўстання супраць царскага самадзяржаўя і прыняў актыўны ўдзел у паўстанні пад кіраўніцтвам нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага.

Вясной 1864 года царскі суд прыгаварыў Бенядзікта Іванавіча да смяротнага пакарання, якое, дзякуючы хадайніцтву нямецкіх вучоных, было заменена катаргай, а затым бестэрміновай высылкай у Сібір. Там ён, як і яго выдатныя землякі Іван Чэрскі, Адольф Янушкевіч, не сядзеў склаўшы рукі, а працягваў навуковую дзейнасць. Вывучаючы жывёльны і раслінны свет Прыбайкалля і фауну возера Байкал, узбагаціў навуку адкрыццём шматлікіх відаў рыб, птушак, насякомых. Упершыню ў навуцы Бенядзікт апісаў жывёльны і раслінны свет Байкала, правёў серыю замераў тэмпературы вады ў Байкале да глыбіні 1320 метраў. Адсюль, з месца высылкі, зняволены Бенядзікт адправіў у еўрапейскія музеі мноства па-майстэрску зробленых чучал птушак, вялікую — больш за 100 тысяч — калекцыю насякомых.

Навуковыя дасягненні сасланага Бенядзікта Іванавіча Дыбоўскага не засталіся не заўважанымі: Імператарскае рускае геаграфічнае таварыства ўзнагародзіла яго малым залатым медалём. Урад Расійскай імперыі дазволіў яму вярнуцца на радзіму, на Беларусь. Прапанавалі вучонаму працу ў маскоўскіх сталічных музеях, у Томскім універсітэце, але ён папрасіў накіраваць яго на Камчатку ўрачом. На паўвостраве Бенядзікт лячыў людзей, вывучаў побыт мясцовага насельніцтва, за свае грошы завёз туды аленяў. Свае ўражанні і назіранні ён падрабязна апісаў у кнізе «Воспоминания о путешествии в Сибирь и на Камчатку».

Пасля вяртання ў Еўропу Бенядзікт Іванавіч узначальваў кафедру заалогіі Львоўскага ўніверсітэта. За выдатныя навуковыя дасягненні ў 1927 годзе яго абралі член-карэспандэнтам АН СССР. Наш слынны зямляк пражыў амаль 100 гадоў, напісаў больш за 170 навуковых прац. Памёр Бенядзікт Іванавіч Дыбоўскі ў 1930 годзе, і яго, як апошняга жывога ўдзельніка паўстання 1863 года пад кіраўніцтвам Каліноўскага, грамадскасць Масквы хавала з вялікімі вайсковымі пашанамі, пад залпы гармат.

## Уладзіслаў

Уладзіслаў Дыбоўскі, малодшы брат Бенядзікта, таксама вызначыўся як буйны вучоны: заолаг, батанік, мінералог, палеантолаг і фалькларыст. Нарадзіўся ён 18 красавіка 1838 года, сёлета якраз споўнілася 175 гадоў з дня яго нараджэння. Як і брат, таксама скончыў Дэрпцкі (Тартускі) універсітэт і атрымаў ступень доктара мінералагічных навук.

І таксама прымаў актыўны ўдзел у паўстанні пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага і быў прыгавораны да турэмнага зняволення. Акрамя Бенядзікта і Уладзіслава, у паўстанні прымалі ўдзел і іншыя прадстаўнікі роду Дыбоўскіх. Усе яны, у тым ліку і жанчыны, былі сасланыя царскім урадам у розныя куткі Расіі.

Адбыўшы пакаранне, Уладзіслаў пачаў даследаваць выкапнёвыя рэшткі Сібіры, Прыбалтыкі, вывучаў флору і фауну Навагрудчыны, збіраў беларускі фальклор. Вынікі навуковай дзейнасці Уладзіслава Іванавіча былі надрукаваныя ў шматлікіх навуковых працах. Акрамя таго, з-пад яго пяра выйшлі такія кнігі, як «Беларускія загадкі з Мінскай губерні», «Беларускія прыказкі з Навагрудскага павета».

Пры дарозе Навагрудак — Любча ўсталяваны мемарыяльны камень у гонар Уладзіслава Дыбоўскага. Браты Дыбоўскія, тыповыя прадстаўнікі беларускага народа, і ў турэмных царскіх засценках, і ў далёкай ссылцы выявілі сябе як выбітныя асобы.

Браты Дыбоўскія, таксама, як і даследчык Усходняй Сібіры Ян Чэрскі, Адольф Янушкевіч, шэраг іншых — нашы суайчыннікі, беларусы, тут нарадзіліся, тут жылі, адсюль выйшлі на вялікі прастор сусветнага прызнання. На вялікі жаль, знаёмячыся з матэрыяламі расійскіх выданняў, прысвечаных гэтым і іншым выдатным асобам, робіш адкрыццё, што яны — палякі. Ці не час выпраўляць памылкі, спадары расіяне?

ПРАЕКТ

# ЧАС КВІТНЕЦЬ КУЛЬТУРНІЦКІМ ІДЭЯМ

Аліна ТАРАНІК

**Культура паляпшае жыццё! Гэтую аксіёму актыўна прасоўвае культурніцкая кампанія «Будзьма беларусамі!». Таму кампанія заклікае ўсіх зацікаўленых у развіцці культурніцкага жыцця свайго рэгіёна ці агулам краіны прапаноўваць ідэі на адмысловы конкурс.**

Аўтарам найлепшых праектаў будзе аказаная рознабаковая падтрымка ў рэалізацыі іх задумаў. Як гэта ўсё будзе адбывацца, расказвае каардынатар кампаніі, старшыня Рады МГА "Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» Ніна Шыдлоўская:

— Тое, што культура паляпшае жыццё для нас, тых, хто працуе дзеля папулярызацыі беларускай культуры, гэта бясспрэчна. Аднак якім менавіта чынам і хто гэта здольны рабіць? Мы лічым, што любы ініцыятыўны чалавек здольны паўплываць на культурніцкае жыццё калі не ў глабальным маштабе, то ў лакальным дакладна. Таму ў гэтым годзе мы абвясцілі конкурс грамадска-культурніцкіх ідэяў, рэалізацыя якіх дала б магчымасць жыхарам горада/рэгіёна/краіны адчуць, як палепшылася іх культурніцкае жыццё. З гэтай мэтай мы шукаем актыўных, ініцыятыўных людзей, гатовых прадставіць і рэалізоўваць свае прапановы для паляпшэння культуры ў самых розных яе праявах — ад высокамастацкай да побытавай.

Мы зладзілі ўжо некалькі «Кірмашоў праектаў» у розных гарадах Беларусі, на якіх людзі і грамадскія ініцыятывы прадстаўлялі свае праекты для публічнай ацэнкі, карысных парад, пошуку аднадумцаў і партнёраў «тут і цяпер». Нам было радасна бачыць, што большасць праектаў сапраўды актуальныя і запатрабаваныя з боку мясцовай грамадскасці, людзі вельмі добра разумеюць, што трэба зрабіць, каб палепшыць жыццё свайго гораду, рэгіёну. Няма недахопу арыгінальных і цікавых ідэй, і гэта вельмі добра. Таму мы вырашылі дапамагчы гэтым ініцыятывам рэалізавацца праз пошук партнёраў, праз інфармацыйную і арганізацыйную падтрымку, абвясціўшы агульнарэспубліканскі конкурс.

Асабліва мы чакаем на праекты, у ходзе падрыхтоўкі і рэалізацыі якіх будзе відавочнае пашырэнне камунікацыі розных груп паміж сабой — ініцыятараў і дзяржаўных установаў, ініцыятараў і бізнэсу і інш. На маю думку, менавіта людзі, іх патэнцыял і разуменне важнасці сваёй працы вызначае якасць культуры, якую мы маем і можам мець.

У вас ёсць ідэя, якая спрыяе развіццю культуры ў самых розных яе праявах, а таксама спрыяе культурнай разнастайнасці вашага рэгёна/горада?

***Кампанія «Будзьма беларусамі!» запрашае дасылаць прэзентацыю такога праекта, а таксама інфармацыю пра ініцыятара на скрыню razam@budzma.org з пазнакай «На конкурс праектаў». Ідэі прымаюцца да 15 мая 2013 года ўключна. Больш інфармацыі на сайце budzma.org.***

▸ КАНЦЭРТ

# ДЗЕНЬ РАДЫЁ: БЕЗ АГЛЯДКІ НА ЧОРНЫЯ СПІСЫ

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**На Дзень радыё арганізатары для эксперыменту сабралі ў адзін тузін гурты, якія апошнім часам падвяргаліся забаронам, каб паглядзець на рэакцыю тых, хто прызвычаіўся вырашаць усе праблемы з дапамогай тэлефоннага права.**


Гурт «Neuro Dubel»


Фота аўтара
«:B:N:» выконвае свае хіты

Гэты канцэрт мае досыць цікавую перадгісторыю. Яго арганізатарамі сталі выдавецкая суполка «БМАgroup» і «Еўрарадыё». Неяк на адной з сустрэч кіраўніка краіны з прэсай дырэктар «Еўрарадыё» Віталь Зыблюк наўпрост задаў пытанне пра чорныя спісы. У адказ Лукашэнка здзівіўся: «Калі яны не выступаюць супраць існуючай улады, дык чаму іх трэба забараняць?»

Праект «Дзень радыё» сабраў шматлікую тарсіду прыхільнікаў беларускага року ў клубе «RE: PUBLIC». Заўважу, што ўсе арганізатары «Дня радыё» ў адзін голас адзначалі, што аніякага ціску на іх не было, і ўсе задумы ажыццяўляліся напоўніцу, што адчувалася падчас правядзення канцэрта.

Першым на сцэну буйнейшага сталічнага клуба быў запрошаны малады гурт «МутнаеВока», які з'явіўся ў афішы «Дня радыё» дзякуючы галасаванню слухачоў на сайце радыёстанцыі. Музыканты зрабілі ўсё, каб старэйшыя таварышы-рокеры дзякавалі «МутнамуВоку» за тое, што «разагрэлі» залу, паднялі настрой слухачам. І сапраўды, фронтмэну гурта Яўгену Змушку ўдалося з першых акордаў прыцягнуць увагу слухачоў сваім спевам і яскравымі мелодыямі, старымі хітамі і новымі кампазіцыямі. Публіка з энтузіязмам прыняла такія кампазіцыі «МутнагаВока», як «Новыя хваля», «Небасхіл», «Сэрца стук», у якіх адлюстраваліся сённяшнія музычныя арыенціры музыкантаў. А гэта стварэнне кампазіцыі ў панк-стылістыцы, у якіх можна адчуць уплыў папулярных мелодый і музыкі рэгі, сучаснага пост-панку.

Сапраўды, рэдкі госць на айчынных клубных падмостках — гурт «POMIDOR/OFF», у якім ужо шмат гадоў вядзе рэй вядомы беларускі рок-музыкант і рэпер Аляксандр Памідораў. Апошнім часам слухачы прызвычаіліся да таго, што вядомы выканаўца выступае ў якасці вядучага розных музычных праектаў ці імпрэзаў. А вось самога Алеся ў якасці фронтмэна асабістага праекта слухачы даўно не бачылі.

З'яўленне музыкі ў якасці ўдзельніка «POMIDOR/OFF» было сустрэта шчырымі апладысментамі. Бо слухачы добра памятаюць такія хіты гурта, як «Шабаны», «Свята пакрадзенае», «Быць беларусам». Менавіта гэтымі творамі і распачалі свой сэт А. Памідораў і яго сябры па камандзе. У праграме гурта «POMIDOR/OFF» гучалі і новыя кампазіцыі (напрыклад, «Дыска») з апошняга альбома «Патас/Попс/Прапаганда», якія адкрылі яго прыхільнікам новы бок творчага амплуа А. Памідорава — пазітыўнага, схільнага да гумару і жартаў выканаўцы.

Пасля сэта рэабілітаванага Памідорава на сцэну пад гучныя апладысменты была запрошана легендарная «Крама», якая з першых жа акордаў захапіла ўвагу ўсіх прысутных: загучаў хіт «Камендант». Залу ахапіла стыхія караоке, калі агульныя спевы суправаджалі канцэрт выканаўцаў.

Адзін за адным гучалі любімыя песні, якія сталі сімваламі многіх пакаленняў маладых беларусаў: «Анёл», «Стэфка–2», «Хавайся ў бульбу!», «Хто дапаможа нам?», «Бяжы хлопец» і іншыя кампазіцыі. А закончылі — цудоўнай баладай «Падае дождж», якая аб'яднала музыкаў і слухачоў і, відавочна, паабяцала новыя сустрэчы.

Музыкі гурта «:B:N:» не сталі прымушаць чакаць сябе і на пазітыўнай хвалі, якая ўзнялася пад музыку «Крамы», рушылі наперад. Хіт-канвеер ад «:B:N:» працаваў бесперапынна і бескампрамісна. «Цягнік», «Крок за крокам», «Жыве рок-н-рол!», «Загінулым паэтам» і іншыя кампазіцыі нагадалі слухачам і музыкантам поспех іх папярэдніх канцэртаў і прэзентацый, якія грымелі тут раней.

Але спрактыкаваныя наведвальнікі рок-канцэртаў ведалі, што трэба пакінуць сілы і на апошні рывок, які абяцаў доўгачаканую сустрэчу з гуртом «Neuro Dubel». Слухачы, якія даўнавата не бачылі шоў сваіх улюбёных панкаў, баяліся, што музыканты састарэлі і іх канцэртны імпэт знік з узростам і адсутнасцю канцэртаў. Але з першых жа песень «Neuro Dubel» давёў слухачам, што каманда знаходзіцца ў выдатнай форме і гатова да новых канцэртных «прыгод». На сцэне шчыравалі фронтмэны А. Кулінковіч і Ю. Навумаў, якія сваім экспрэсіўным выкананнем і артыстызмам даказалі, што песні гурта застаюцца актуальнымі і сёння, што іх ведаюць і любяць беларускія слухачы.

Са сцэны лідар «Neuro Dubel» Аляксандр Кулінковіч абвясціў, што неўзабаве 17 траўня павінен адбыцца вялікі сольны канцэрт гурта, і ён запрасіў усіх сваіх прыхільнікаў у клуб «Цэнтр».

Здаецца, «чорныя спісы» перастаюць быць такімі жорсткімі, значыць, нас чакаюць новыя сустрэчы з любімымі выканаўцамі.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет».
г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 534

Падпісана да друку 09.05.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.
(S) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча